

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 6 (19) Чэрвень 1995 June Год выд. 3


## НА БЕЛАРУСІ "НЕРАЗЬБЯРЫХА"

14 травеня 1995 года на Беларусі адбыліся выбары дэпутатаў у Парлямэнт. З волі прэзыдэнта прайшоў таксама рэфэрэндум па 4-ох пытаньнях. Перадвыбарная кампанія, аднак, прайшла аднабакова з вялізарнаю перавагаю ўладу маючых структураў.

На пытаньне: Ці згодныя вы з наданьнем рускай мове роўнага статусу з беларускай? — прагаласавала 83,3% "так", гэта з тых, хто прыняў удзел у галасаваньні, г. значыць 4.014.402 чалавек. На другое пытаньне: Ці падтрымоўваеце вы прапанову аб устанаўленьні новых дзяржаўнага сьцягу і дзяржаўнага герба Беларусі? — прагаласавала 75,1%, або 3.620.658 чалавек. На пытаньне трэйцяе аб дзеяньнях прэзыдэнта накіраваных на інтэграцыю з Расеяй прагаласавала 82,4%. На пытаньне чацьвертае аб унясеньні зьменаў у Канстытуцыю Беларусі, каб прэзыдэнт меў магчымасьць датэрмінова прыпыняць дзейнасьць Парлямэнту, прагаласавала 77,7%.

У галасаваньні прынялі ўдзел толькі 64,7%, або 4,5 мільёны чалавек. Усіх выбаршчыкаў з правам голасу на Беларусі налічваецца 7,5 мільёнаў.

Што адносіцца да выбараў дэпутатаў, дык на 260 месцаў у Парлямэнце толькі 18 чалавек набрала патрэбную колькасьць галасоў, каб прайсьці ў першым туры...

Праз дзьве нядзелі, 28 травеня адбыўся другі тур выбараў у Парлямэнт. Толькі крыху больш за палову ўпаўнаважаных да галасаваньня ўзяло ўдзел у выбарах... Гэтым разам 102 дэпутатаў набрала патрэбную колькасьць галасоў. Гэта давяло агульны лік выбраных дэпутатаў да 120, аднак каб Парлямэнт мог распачаць сваю працу патрабуецца мінімум 174 дэпутаты. Такім чынам выбары ў Парлямэнт Беларусі праваліліся.

У 26-ці акругах, дзе ўдзел у выбарах прыняло ўдзел менш за 50% выбаршчыкаў, выбары былі аб'яўлены несапраўднымі. У 42-ух выбарчых акругах Менску, ніхто не набраў патрэбную колькасьць галасоў... У ліку ўжо выбраных аказаліся 31 чалавек з аграрнае (калгаснае) партыі, 27 камуністаў, а большасьць гэта розныя незалежныя дэпутаты.

У другім туры выбараў набралі патрэбную колькасьць галасоў і былі выбраныя — Мечыслаў Грыб, Вячаслаў Кебіч, Уладзімір Ягораў... Лідар БНФ Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч патрэбных галасоў не набралі...

30 травеня А. Лукашэнка сказаў для Інтэфакса, што Захад блякуе інтэграцыю славянскіх дзяржаваў (рэспублік) з Расеяй. На канфэрэнцыі СНД у Менску Украіна на інтэграцыю не пайшла, што вельмі моцна раздражніла прэзыдэнта Лукашэнку і да нейкай ступені Б. Ельцына. Розныя дзіўныя пачынаньні А. Лукашэнкі моцна насьцярожылі Эўропу і Амэрыку... Што будзе далей, пакажа час...

(Уласная карэспандэнцыя з Варшавы)

**"Беларускі Дайджэст" чакае Вашае ахвяры на Выдавецкі Фонд!!!**

## Каб ня было фінансавага калапсу, трэба хутчэй аздараўляцца эканоміцы

**Віктар ХАРОШКА**

Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі часта гучала паведамленне аб прынцыповых разыходжаннях пазіцыі Нацыянальнага банка рэспублікі з пазіцыяй Прэзідэнта і Кабінета Міністраў па ключавых пытаннях грашова-крэдытнай і працэнтнай палітыкі і магчымай з-за гэтага адстаўцы Станіслава Багданкевіча.

Але падзеі апошніх дзён паказалі, што справы ідуць зусім не так. У абодвух бакоў існуе поўнае паразуменне па названых праблемах.

Нацыянальны банк стварыў "запас" грошай больш чым на 3 трыльёны рублёў. Гэта стала магчымым толькі дзякуючы закупцы валюты, а не за кошт высокапрацэнтных пазык камерцыйным банкам. Менавіта гэтую акалічнасць і не заўважылі пэўныя колы ў рэспубліцы.

Дзеянні галоўных банкіраў рэспублікі прывялі да таго, што пачала імкліва зніжацца інфляцыя. Калі ў студзені яна складала 40 працэнтаў у месяц, дык у лютым — ужо 34, у сакавіку — 20, а ў красавіку — 12—15 працэнтаў. Адносна высокай інфляцыя засталася таму, што ўрад узняў цэны на камунальныя паслугі. Без гэтага кроку працэс падзення беларускага рубля спыніўся б на васьмі працэнтах.

Усё гэта дало магчымасць Нацыянальнаму банку распрацаваць рэкамендацыі, якімі камерцыйным банкам дазваляецца зніжаць працэнтныя стаўкі па пазыках суб'ектам гаспадарання. Цяпер прамыслоўцы, аграрнікі, гандляры і г.д. могуць браць крэдыты пад 6 працэнтаў, а не пад 25, 30 ці болей, як было раней.

Але новаўвядзенне не датычыцца стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка. Бо ва ўсім свеце гэтая працэнтная стаўка ў 2—2,5 раза перавышае ўзровень інфляцыі. На практыцы сказанае азначае, што камерцыйныя банкі павінны весці справы адпаведна са сваімі ўласнымі сродкамі. А калі і бяруць пазыку ў Нацыянальным банку, дык пад вялікія працэнты. Інакш нельга. Развучацца разумна весці фінансавую палітыку.

Станіслаў Багданкевіч падчас прэс-канферэнцыі, наладжанай па пытаннях працэнтнай палітыкі Нацыянальнага банка, гаварыў і аб іншых праблемах свайго ведамства і эканомікі рэспублікі ў цэлым.

— Калі ў апошнія месяцы не адбудзецца аздараўленне эканомікі, — адзначыў Багданкевіч, — а перадумовы для гэтага сёння ёсць — тры трыльёны грашовай масы, — адбудзецца фінансавы калапс. Безумоўна, "абваліцца" і долар ЗША. А каб адбылася стабілізацыя, гаспадарнікам трэба з усіх сіл старацца працаваць з мінімумам свайго абаротнага капіталу, а не праядаць яго, што ў нас адбываецца на кожным кроку.

З палітыкай Нацыянальнага банка пагадзіўся і прэм'ер-міністр рэспублікі Міхаіл Чыгір, які нядаўна прысутнічаў на пасяджэнні праўлення Нацыянальнага банка.

Так што адстаўка Багданкевіча пакуль што адкладваецца.

*Народная газета*

## „Нянавісць"

10 мая вечарам беларускае тэлебачанне паказала фільм Юрыя Азаронка і Уладзіміра Гасцюхіна „Нянавісць". Твор гэты, побач творчасці савецкіх кінематаграфістаў трыццатых гадоў, смела можа быць прыкладам прапаганды, якая не звяртае ўвагі ні на факты, ні на маральнасць, каб толькі дасягнуць вызначаную ўладай мэту. Мэтай фільма „Нянавісць", які дэманстраваўся на тры дні перад выбарамі і рэферэндумам, было кампраметаванне дэмакратычных сіл у Беларусі, а перш за ўсё Беларускага народнага фронту.

Фільм пачынаецца ў Курапатах, дзе Пазняк, прамаўляючы да натоўпу з бел-чырвона-белымі сцягамі, гаворыць пра ляжачыя там ахвяры сталінскіх рэпрэсій. Зараз пасля савецкія ці расейскія „вучоныя" прадстаўляюць „доказы", што некалькі соцень тысяч расстраляных у Курапатах людзей — гэта не ўсе беларусы, але ёсць там таксама грамадзяне Аўстрыі, Францыі, Польшчы. Паводле савецкіх вучоных лес напоўніўся трупамі падчас нямецкай акупацыі, а расстрэлявалі „сваіх" і „чужых" беларускія нацыяналісты, якія насілі на рукавах „Пагоню" і бел-чырвона-белыя павязкі. Пачатак быў добры, але паводле сталінскай меркі таксама і памяркоўны. Далей ужо падласць аўтараў фільма, кіраўніцтва тэлебачання і дзяржаўнай улады, па заказу якой гэты прапагандысцкі матэрыял рэалізаваўся, не мела ніякіх абмежаванняў. Беларуская нацыянальныя сімвалы паказвалі выключна так, каб спалучаліся яны з фашызмам, з нямецкай акупацыяй, а тыя, якія адносяцца да іх з пашанай, былі пастаўлены на адным узроўні з эсэсаўцамі, якія расстрэльвалі жыхароў беларускіх вёсак. Напеўрамен на экране з'яўляліся пад знакам „Пагоні" то беларускія паліцыянты саракавых гадоў у прысутнасці нямецкіх афіцэраў, то лідэры БНФ. Фатамантаж і каментарый не пакідалі ніякіх сумненняў, што сённяшнія нацыянальныя сімвалы — гэта выдумка фашыстаў. Дарэчы, самым выдатным дасягненнем мастацкай творчасці савецкіх дакументалістаў з Менска было паказанне Радаслава Астроўскага ў прысутнасці афіцэраў гестапа, які прамаўляў голасам Зянона Пазняка — лідэра сучаснай беларускай апазіцыі.

Гэта напэўна астанецца таямніцай савецкай навукі і тэхнікі, у які спосаб прамаўляючаму ў 1943 годзе чалавеку ўклалі ў вусны голас і словы сучаснага палітыка. У пэўны момант нават прэзідэнт ЗША Біл Клінтан заблытаўся ў рады фашыстаў і стаў таварышам Гітлера і Пазняка.

Вульгарныя вобразы з жыцця мастацкага асяроддзя паказаны былі як сімвал дэгенерацыі грамадства ў выніку спланаванай на Захадзе палітыкі, накіраванай на знішчэнне славян і іх культуры. Доўга-доўга рускамоўны мастацтвазнавец Андрэй Савіцкі тлумачыў, што творчасць мастакоў суполкі „Пагоня" гэта духовая пустата з элементамі сатанізму. Асаблівую ўвагу звярнуў ён на карціны Аляксея Марачкіна, прыхільніка БНФ, якія паводле аўтараў фільма нічога сабой не прадстаўляюць, а толькі дэмаралізуюць маладое пакаленне.

Пацярпела таксама беларуская паэзія. Малады паэт Славамір Адамовіч прадстаўлены быў як чалавек выхаваны ў шавіністычнай традыцыі. Пасля паказалі яго як эратамана і будучага тэрарыста. Анатоль Сыс і іншыя беларускія паэты, якія трапілі ў фотааб'ектыў савецкага кінематаграфіста — гэта нацыяналісты, наркаманы і п'яніцы.

Найбольш агідны вобраз прадстаўлялі сабой рок-музыканты, якія выступілі на мітынгу БНФ. У сучасны відэазапіс былі ўманціраваны фрагменты старых нямецкіх фільмаў, прадстаўляючых Мінск у гады гітлераўскай акупацыі. У рытм сучаснай рок-музыкі танцавалі паліцыянты ў нямецкіх уніформах з „Пагоняй" на рукавах. І тады, і сёння на мітынгу апазіцыі віднела тая самая сімволіка. Пасля такога фільма не цяжка грамадзяніну Беларусі пераканацца ў тым, што бел-чырвона-белы сцяг і „Пагоня" — гэта сімвалы фашыстаў і здраднікаў. Ці за такія сімвалы калі-небудзь выкажацца чалавек, які 9 мая ішоў у Менску з партрэтам Сталіна ў руках, а віталі яго каменны Ленін і жывы Лукашэнка?

*„НІВА"* Я. М.

P.S. Фільм гэты, быццам бы па жаданні тэлегледачоў, паказалі яшчэ раз 12 мая.



BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Сяргей ДУБАВЕЦ

# Базавы інстынкт

*"Свабода"*

...Пачуцьцё уласнасьці ў беларуса ня толькі адсутнічае, але ён гатовы аддаць жыцьцё, каб хаця не падумалі, што яно ў яго ёсьць. У гэтым, можа быць, самая істотная прычына таго, што ў нас не атрымліваецца жыць лепей. Бо ўсе рэформы абапіраюцца ў рэшце рэшт на адно — на пачуцьцё гаспадара.

Гэтак выглядае справа з уласнасьцю прыватнай і з уласнасьцю нацыянальнай.

У Лідзе мучаюць свой сярэднявечны замак і так і гэтак. Іншыя б ганарыліся, дзяцей вадзілі, турыстам паказвалі. А ў нас сёньня гэты недарэстаўраваны помнік выглядае закінутай новабудоўляй. У толькі што адбудаваных вежах — "прыбіральні", паўсюль цэмэнт, на падворку забытыя матэрыялы. рэшткі нейкай тэхнікі... Не кіпіць работа. А чаму? Таму што кожны лідчук ведае, што гэта — літоўскі замак. Беларусам, каб адрэстаўраваць яго з душою, трэба глядзець на яго як на свой, як на ўласнасьць. А гэта — найвялікшая пакута, ломка базавага інстынкту.

Тое самае з мовай, гісторыяй, сымболікай, дзяржаўнасьцю, незалежнасьцю... Калі паўстае праблема — чыё яно, хто дакажа правы ўласнасьці на беларускую мову і дзяржаўнасьць? — беларусы адназначна і дружна адказваюць: ня наша! Абы не западозрылі ў прэтэнзіі. Сорамна, як у тым гастраноме, хоць праваліся.

Тое самае і зь зямлёй. Самі мужыкі супраць таго, каб дзяліць калгасы на прыватныя надзелы, бо кожны тады мусіць удзельнічаць у дзяльбе, прэтэндаваць на ўласнасьць. А інстынкт не дае. Мы лепей памрэм зараз, толькі каб не западозрылі...

І прэзідэнт, кроў ад крыві, плоць ад плоці, інстынкт ад інстынкту свайго народу, увасабляе ў сабе гэты базавы маральны рэфлекс. "Бразаўскас мне гаварыт: ты пачаму, Аляксандар Грыгор'евіч, мой герб узял? А я атвічаю: да ні брал я, ня нужан он мне!" І так ва ўсіх, ва ўсім і паўсюль. Нічога ня бралі, ні на што не прэтэндуем, нічога ня маем і мець ня хочам. Лічыце, што нас як бы і няма ўвогуле. Мы гуляем у мёртвых.

Беларусы маглі б ганарыцца такой адметнасьцю, калі б яна спрыяла нашаму лепшаму жыцьцю. Але ж не. Калі станоўчыя маральныя прынцыпы зганяныя ў мінус, туды ж заганяецца і гаспадарка, і палітыка, і культура. Мы гаворым пра наступствы — ценявую эканоміку, напрыклад, але ўпарта ня хочам заўважаць прычыну: беларусы — ценявая нацыя, ценявы народ, які прагне толькі аднаго: не выяўляцца ў рэальнасьці нічым, ніякай маёмасьцю, каб ніхто, крый Божа, не западозрыў, што ў нас ёсьць свая дзяржава.

Нават бальшыня дзеячоў нацыянальнай культуры стараюцца па-за працай гаварыць па-расейску. Прычыны знаходзяць розныя, але прычына адна — такі моцны гэты інстынкт. А тыя, хто пераадолеў яго, перасталі быць ценем, але на агульным тле ценявое нацыі выглядаюць невядома якімі джарданамі брунамі.

Ва ўсёй гэтай сытуацыі ёсьць ключ, якім адмыкаецца наша пачуцьцё ўласнасьці, а значыць, і рэформы. Гэты ключ адразу цяжка заўважыць, таму што ён як бы ў іншай сфэры жыцьця, пра якую наш базавы інстынкт забараняе нам думаць і гаварыць. Гэты ключ — мова.

Парадаксальным чынам менавіта расейская мова трымае беларускі народ у сваім ценю і не дае яму выказацца па-свойму, рэалізаваць сябе, раскрыць свой уласны патэнцыял. Яна, сапраўднымі ўладальнікамі якой мы ніколі не былі і ня будзем, стала тою прыладаю, якой беларусы па-мазахісцку глушаць у сабе пачуцьцё гаспадара сваёй мовы, сваёй кішэні, сваёй зямлі, свайго жыцьця.

# ЗАЯВА КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

28 красавіка 1995 года споўніўся год з дня ўтварэння Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь. Такі орган існуе практычна ва ўсіх дзяржавах з устойлівымі дэмакратычнымі традыцыямі. Менавіта ў гэтых дзяржавах адзначаецца высокі ўзровень развіцця сапраўднага народаўладдзя, пры якім найстражэйшае захаванне канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян з'яўляецца абавязковым правілам.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй і Законам аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь Канстытуцыйны Суд заснаваны для забеспячэння вяршэнства Канстытуцыі, яе непасрэднага дзеяння на тэрыторыі рэспублікі, зацвярджэння законнасці ў праватворчасці і правапрымяненні. Гэтым зроблены значны крок да рэальнай пабудовы прававой дзяржавы, абвешчанай Канстытуцыяй.

Уся дзейнасць Канстытуцыйнага Суда за прайшоўшы год была накіравана на вырашэнне ўскладзеных на яго задач. Асаблівую ўвагу суд надаваў абароне правоў і свабод грамадзян, грунтуючыся на канстытуцыйным палажэнні аб тым, што чалавек з'яўляецца вышэйшай каштоўнасцю грамадства і дзяржавы.

Суд зыходзіў і будзе зыходзіць з таго, што народ у дэмакратычнай дзяржаве з'яўляецца адзінай крыніцай улады. Суд лічыць, што пабудова беларускай дзяржавы, фарміраванне нацыянальнай прававой сістэмы павінны грунтавацца на павазе Канстытуцыі, безумоўным выкананні законаў усімі без выключэння службовымі асобамі і грамадзянамі. Усе нарматыўныя акты, выдаваемыя органамі і асобамі, якім даверана выкананне дзяржаўных функцый, павінны адпавядаць Канстытуцыі, агульнапрызнаным прынцыпам міжнароднага права.

На жаль, наша рэчаіснасць сведчыць аб тым, што асноўныя прынцыпы пабудовы прававой дзяржавы, вызначаныя Канстытуцыяй, абвешчаныя ёю мэты і задачы не знаходзяць рэальнага ажыццяўлення ў нашым грамадстве і дзяржаве. Канстытуцыя сёння яшчэ не стала тым Асноўным Законам, у адпаведнасці з якім павінна будаваць сваю дзейнасць дзяржава, яе органы і службовыя асобы.

Канстытуцыйны Суд у апублікаваным 3 лютага 1995 года Пасланні Прэзідэнту і Вярхоўнаму Савету аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь звярнуў увагу не толькі на асноўныя праблемы ў справе пабудовы прававой дзяржавы, але і на шляхі прававой стабілізацыі грамадства, выклаў сваё бачанне перспектыў канстытуцыйнага будаўніцтва, унёс прапановы па ўмацаванню канстытуцыйнай законнасці. Аднак дагэтуль ні з боку Прэзідэнта, ні Вярхоўнага Савета рэакцыі на гэтае пасланне не было.

Асаблівую трывогу выклікае тое, што на агульным фоне нізкай прававой культуры, а іншы раз і прававога нігілізму гучаць заявы некаторых вышэйшых службовых асоб, што яны не будуць выконваць законы і іншыя нарматыўныя акты, прынятыя ў межах кампетэнцыі адпаведных органаў. Гэтым не толькі парушаюцца нормы артыкула 52 Канстытуцыі, які прадугледжвае абавязак кожнага, хто знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, захоўваць Асноўны і іншыя законы рэспублікі, але і падрываюцца самі асновы прававой дзяржавы, да пабудовы якой мы імкнёмся.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй пытанне аб канстытуцыйнасці любога нарматыўнага акта вырашаецца толькі Канстытуцыйным Судом. Прысваенне з боку каго б там ні было права вырашаць пытанне аб адпаведнасці тых ці іншых прававых актаў ці іх асобных палажэнняў Канстытуцыі і па свайму разуменню выконваць ці не выконваць іх недапушчальна.

Канстытуцыйны Суд, выконваючы свой абавязак перад народам Рэспублікі Беларусь, заяўляе, што будзе кіравацца ў сваёй дзейнасці толькі Канстытуцыяй, якімі б непажаданымі ні былі рашэнні суда для некаторых дзяржаўных органаў і асобных службовых асоб. Ніякія спасылкі на «вышэйшую справядлівасць» ці мэтазгоднасць не могуць прызнавацца прыярытэтнымі ў адносінах да Канстытуцыі.

Пабудова ў Рэспубліцы Беларусь прававой дзяржавы магчыма толькі пры ўмове зацвярджэння вяршэнства права, калі дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы незалежна ад займаемага імі службовага становішча дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёй законаў.

Канстытуцыйны Суд выказвае надзею, што Прэзідэнтам, Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь і іншымі дзяржаўнымі органамі ў межах іх паўнамоцтваў будуць прыняты належныя меры па недапушчэнню парушэнняў Канстытуцыі і законаў рэспублікі.

***Прынята на пасяджэнні Канстытуцыйнага Суда 28 красавіка 1995 г.***

# САВЕТ ЕЎРОПЫ ХОЧА ПРЫГЛЕДЗЕЦЦА ДА БЕЛАРУСІ

"ЗВЯЗДА"

**З 26 па 30 красавіка ў Рэспубліцы Беларусь знаходзілася афіцыйная дэлегацыя Савета Еўропы. У яе саставе Й. Гофман — старшыня палаты мясцовых і рэгіянальных органаў улады Кангрэса мясцовых і рэгіянальных органаў улады Савета Еўропы і Г. Мюдрых — супрацоўнік сакратарыята палаты рэгіёнаў.**

Дэлегацыя Савета Еўропы была прынята ў Адміністрацыі Прэзідэнта, Вярхоўным Савеце, Кабінеце Міністраў, Міністэрстве замежных спраў, у Мінскім гарсавеце, мінскіх гарадскім і абласным выканаўчых камітэтах.

Галоўная мэта візіту дэлегацыі — распрацоўка спецыяльнай праграмы «LODE» (скарочана — ад «мясцовая дэмакратыя») па супрацоўніцтву паміж урадавымі і няўрадавымі арганізацыямі Рэспублікі Беларусь і Кангрэсам мясцовых і рэгіянальных органаў улады Савета Еўропы ў пытаннях мясцовага самакіравання.

На прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным прэс-цэнтры пан Гофман выступіў перад журналістамі. Ён сказаў: «У Савет Еўропы ўваходзяць 34 дзяржавы, і вы ведаеце, што Савет Еўропы з'яўляецца аб'яднаннем еўрапейскіх дзяржаў, якое было створана з мэтай падтрымкі дэмакратыі і абароны правоў чалавека, і ў цяперашні час ён усяляк садзейнічае развіццю мясцовага самакіравання. Мы прыбылі сюды, каб паглядзець, ці маюцца ў Беларусі передумовы для прыняцця яе ў Савет Еўропы. Першае ўражанне — мы не сустрэлі ні аднаго чалавека, які не хацеў бы гэтага. Але для прыняцця ў Савет Еўропы абавязковы некаторыя ўмовы: у краіне павінны захоўвацца правы чалавека; павінны быць праведзены дэмакратычныя выбары; павінна быць наяўнасць дэмакратычных структур».

Трэба сказаць, што рашэнне аб прыняцці ці непрыняцці Беларусі ў Савет Еўропы можа адбыцца толькі пасля восеньскага візіту дэлегацыі, што дасць магчымасць зрабіць грунтоўны даклад па ўсіх пытаннях на Савеце Еўропы.

Як сказаў пан Гофман, Савет Еўропы гатовы аказаць арганізацыйную і кансультацыйную дапамогу, каб паскорыць шлях да яго Беларусі.

Пан Гофман падкрэсліў, што асноўны прынцып разумення дэмакратыі Саветам Еўропы — гэта дэмакратыя ў накірунку знізу ўверх, ад кожнага асобнага грамадзяніна праз мясцовае самакіраванне, праз грамадства, праз рэгіянальны ўзровень — на ўзровень нацыянальнай дзяржавы.

Фонд Льва Сапегі, які займаецца праблемамі мясцовага самакіравання, наладзіў «круглы стол» у Доме літаратара, дзе з дэлегацыяй Савета Еўропы змаглі сустрэцца прадстаўнікі кіруючых структур Беларусі, палітолагі, журналісты, эканамісты.

**Таццяна АНТОНАВА.**

# КОЛЬКІ ЖЫХАРОЎ У БЕЛАРУСІ?

**У адказ на гэта пытанне карэспандэнта Белінфарма з Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамілі, што насельніцтва рэспублікі зменшылася за год на 22 тысячы чалавек і склала 10 мільёнаў 297 тысяч. 69 працэнтаў з іх цяпер пражываюць у гарадах і гарадскіх пасёлках, а 31 працэнт — у сельскай мясцовасці.**

У Мінску налічваецца 1 мільён 694 тысячы чалавек. Самыя населеныя гарады — у Мінскай, Гомельскай і Магілёўскай абласцях. Менш за ўсё гарадскіх жыхароў на Гродзеншчыне. Што датычыць сельскага насельніцтва, то яго больш за ўсё ў Мінскай і Брэсцкай абласцях. Менш за ўсё вяскоўцаў на Магілёўшчыне і Гродзеншчыне.

**Белінфарм.**

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

**Як паведаміў тыднёвік "Фемида", у беларускім войску зараз служыць 39 генералаў (зусім нядаўна было 51). Афіцэраў жа налічваецца — 22 тысячы. З іх 6800 (кожны трэці!) служыць у сталіцы. Непакрыўджаны і астатнія: большасць з іх жывуць у абласных і буйных раённых цэнтрах. Ці не таму некалі выпускнікі вайсковых вучэлішчаў лічылі за шчасце патрапіць служыць у БВА. Сёння ж, у адрозненне ад расійскіх войскаў, у нас няма не толькі Чукоткі ды Забайкалля, няма і Чачні з Таджыкістанам... Не служба, а маліна. Вось толькі, скардзяцца вайскоўцы, плацяць ім мала. Камандзір узвода атрымлівае не на шмат больш за звычайнага прафесара: ад 900 тысяч рублёў у месяц і вышэй...**

## *Крывавыя лічбы II-е Сусьветнае вайны*

Паводле верагодных зьвестак нямецкага Гэнеральнага штабу, страты на Ўсходнім фронце за ўсе гады вайны выносілі 1,044,178 чалавек забітымі і 1,400,646 лічыліся прапаўшымі без вестак ды пленных. Агульныя страты нямецкіх збройных сіл на Ўсходнім фронце даходзілі да 2,500,000 чалавек.

За гэты самы час страты савецкіх узброеных сіл выносілі каля 9,000,000 чалавек. Да гэтага трэба дадаць яшчэ каля 5,500,000 ваеннапалонных... Такім чынам страты савецкае арміі выносілі каля 15,000,000 чалавек. Трэба памятаць, што страты савецкае арміі і дасюль яшчэ канчаткова не ўстаноўлены...Усё яшчэ гэтыя крывавыя лічбы пакрытыя нейкім незразумелым сакрэтам...



# ДАВАЙЦЕ ДУМАЦЬ!

ЗВЯЗДА

**Генадзь БУРАЎКІН.**

Зусім нямнога часу засталося да таго нядзельнага дня, калі разам з бюлетэнямі для галасавання на выбарчых участках нам уручаць і лісткі ўсенароднага апытання. Не будзем сёння ўспамінаць, як прымалася рашэнне аб гэтым, як нашы дэпутаты, нібы напалоханыя зайцы пад дажджом, што перабягаюць ад аднаго кусціка да другога, шукаючы больш зацішнага месца, лёгка мянялі свае думкі і пазіцыі, не надта клапоцячыся пра дзяржаўны аўтарытэт, — рэферэндум будзе. І вынікі яго залежаць цяпер толькі ад нас, грамадзян суверэннай Беларусі. Тут ужо не кіўнеш на няўступчывасць Прэзідэнта, на беспрынцыпнасць парламенцкай большасці, на радыкалізм апазіцыі — кожны павінен прыняць рашэнне сам, памятаючы, што і ад яго ў значнай ступені залежыць многае ў далейшым гістарычным лёсе Радзімы.

Перш за ўсё, відаць, варта задумацца, каму і навошта патрэбен гэты рэферэндум, чаму на яго вынесены менавіта тыя пытанні, што прадыктаваны Прэзідэнтам, і ці сапраўды яны самыя балючыя і самыя галоўныя ў нашым сённяшнім грамадстве.

Ва ўсіх прамовах, пастановах, артыкулах высокіх кіраўнікоў і дасведчаных спецыялістаў самай вялікай сучаснай бядой і праблемай дружна называецца эканамічны крызіс, інфляцыя, катастрафічнае падзенне жыццёвага ўзроўню людзей. Вось бы над імі ўсім агулам і падумаць. А тут — мова, сімволіка. Што — цяперашні сцяг сур'ёзна замінае прадуманым глыбокім рэформам нашай гаспадаркі? Што — сённяшні герб непераадольна лёг на дарозе да росквіту краіны і народнага дабрабыту? Чаму Прэзідэнт і яго каманда не хочуць параіцца з намі наконт таго, якія меры прыняць, каб чэсны заробак даваў магчымасць кожнаму жыць па-людску, каб не пакутвалі без лекаў інваліды і ветэраны, каб дзеці ў школах не трацілі прытомнасць ад недаядання і авітамінозу, каб прадукцыя нашых заводаў і фабрык давала дзяржаве валютны прыбытак?..

Успомнім, за што найперш галасавалі выбаршчыкі на нядаўніх прэзідэнцкіх выбарах, аддаючы перавагу сённяшняму нашаму лідэру, — далёка не за змену сімволікі і новы статус рускай мовы, бо і ў Кебіча тут пазіцыі былі практычна такія ж, а за жорсткую барацьбу з раскраданнем народнага багацця, за рэзкае паляпшэнне дабрабыту, за ўключэнне ў працу прадпрыемстваў, што пачалі прастойваць, за спыненне шалёнага росту цэн і г.д. Хіба гэтыя ўсе абяцанні ажыццёўлены ўжо? Хіба не працягваецца нахабнае будаўніцтва шыкоўных катэджаў і самаўпраўства чынавенства? Хіба спынены вал злачыннасці? Хіба ломяцца паліцы магазінаў ад высокаякасных і даступных прадуктаў і тавараў? Дык чаму трэба шукаць агромністыя сродкі на правядзенне ідэалагізаваных апытанняў, а не на павелічэнне пенсій, стыпендый, дапамогі абяздоленым? Пра гэта сарамліва і хітра маўчаць і маладыя дзеячы «вертыкалі», і шматслоўныя, самаздаволеныя дэпутаты. Няўжо і тым, хто стаіць ля станка, хто працуе на трактары, хто выхоўвае дзетак, хто будуе дамы, гэта ўсё роўна?..

Пытанне першае: «Ці згодны Вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай?» Паколькі не ўдакладняецца, што маецца на ўвазе пад роўным статусам, звернемся да нашага будзённага жыцця.

Зайдзіце ў любую кнігарню Мінска ці, скажам, Віцебска альбо Брэста і падлічыце, колькі там кніг выкладзена на паліцах на рускай і беларускай мове — суадносіны будуць 100:1, а то і больш, не на карысць дзяржаўнай мовы. Зазірніце ў любы кіёск Саюздруку, пацікаўцеся свежымі газетамі і штотыднёвікамі — тое ж. Уключыце тэлевізар — на кожнае беларускае слова з нашага экрана вы пачуеце сотню, а то і тысячу рускіх слоў. Папрысутнічайце на рабочых нарадах у Адміністрацыі Прэзідэнта ці Кабінеце Міністраў — калі там загучыць беларуская мова, вы станеце сведкамі надзвычай рэдкага выпадку... Дык дзе тут, скажам так, непаважлівыя адносіны да мовы нашага вялікага суседа, што ў падтэксце відавочна гучыць у прапанаваным пытанні? Мне здаецца, калі быць дакладнымі і шчырымі, трэба гаварыць аб неабходнасці «выроўнівання» ненармальнага становішча з беларускай мовай у беларускай дзяржаве. І той, хто фармуляваў «моўнае» пытанне на рэферэндуме, або зусім адарваны ад рэальнага жыцця, або хітруе і хоча нас уцягнуць у несумленныя палітычныя гульні, якія ўсчынаюць розныя «саборы» і «марыністы-баталісты» (дарэчы, не ведаю, як каму, а мне кашчунна гучыць сама назва СС «Белая Русь» — «эсэсаўцы» пакінулі пра сябе ў партызанскай пакутнай Беларусі зусім пэўную памяць).

Калі ж гаворка ідзе пра наданне рускай мове статуса дзяржаўнай, то гэта тэрмінова і пільна патрэбна ў асноўным толькі некаторым чыноўнікам ды розным порсткім дзеячам, што карыстаюцца дабрынёй беларускага народа і хочуць вярнуць у поўнай забытай красе і моцы былую расійскую імперыю, дзе ў свой час было афіцыйна забаронена наша матчына слова. Чыноўнікі проста не хочуць браць на сябе лішнія турботы і вучыць мову таго краю, дзе прэтэндуюць на прывычнае для іх кіраўніцтва, а паплечнікі Жырыноўскага і завадатары казацкіх фарміраванняў (як быццам па нашай зямлі цякуць Дон і Урал) бачаць у гэтым прыступку да каланізацыі паслухмяных беларусаў. Ім хочацца ўжо ў блізкім будучым «мяккага» паглынання Расіяй нашай краіны: вось, маўляў, у нас і мова адна, і адны палітычныя сілы, і адзіны народнагаспадарчы комплекс... Так званае двухмоўе — гэта проста пераходны этап да знішчэння самабытнасці і незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Невыпадкова ніхто (уключаючы самых высокіх асоб дзяржавы) нідзе нават не заікнуўся аб тым, што пры афіцыйным двухмоўі для прадстаўнікоў і служачых краіны **абавязковае** свабоднае валоданне **дзвюма** мовамі. Калі адкінуць гучную дэмагогію, дык усё вельмі проста: яны хочуць займець **законнае** права не ведаць і не карыстацца беларускай мовай, бо ў прававой дзяржаве, якой мы можам стаць, дэманстратыўнае невыкананне законаў (а між іх і Закон аб мовах) можа прывесці да развітання з цёплым кабінетам.

Тым жа, хто бачыць у так званай беларусізацыі ледзь не прычыну нашых эканамічных цяжкасцяў, я раю з'ездзіць у вёскі Валагодскай ці Яраслаўскай абласцей або яшчэ бліжэй — на Пскоўшчыну і Смаленшчыну і на свае вочы паглядзець, як нішчымна там жывуць людзі, а там жа няма дзяржаўнай беларускай мовы. Дык хіба ў мове справа? Можа, яна ў эканамічных законах, да якіх мы не прывыклі, і ў тых кіраўніках, якія дужа смела ўзяліся выводзіць народ з бяды.

Лямант аб нібыта ледзь ці не ўсенародным патрабаванні ўвядзення ў нас двухмоўя, па майму глыбокаму перакананню, узняты штучна і не мае пад сабою сур'ёзнага грунту. Прывяду ўсяго адзін факт.

Я ўваходзіў у калектыў, які працаваў над падрыхтоўкай Закона аб мовах у Беларусі, і захаваў красамоўны дакумент таго часу. На 15 студзеня 1990 года ў рэдакцыі рэспубліканскіх газет, радыё і тэлебачання, аблвыканкомы і Мінскі гарвыканкам паступіла 47 пісем ад грамадзян Беларускай ССР у парадку абмеркавання праекта Закона. Прапанова аб двухмоўі была толькі ў 10-ці. Наогул па рэспубліцы за прыняцце Закона аб мовах выказалася ў ходзе абмеркавання яго праекта 13.527 чалавек. Ідэю двухмоўя падтрымлівалі толькі 979 чалавек. Не думаю, што гады незалежнасці Беларусі, калі на дзяржаўным узроўні былі зроблены першыя крокі па ўсталяванні дэмакратыі і суверэнітэту, унеслі рэзкія змены ў настроі людзей адносна двухмоўя. Так што крыкі так званых рускамоўных актывістаў зусім не з'яўляюцца голасам народным.

Я ўжо не кажу тут, што без росквіту нацыянальнай мовы не можа быць росквіту нацыянальнай культуры, што нямы, неадукаваны народ наўрад ці займе вартае месца ў свеце. Урэшце, а дзе ж быць паўнапраўнай (а не палавіннай, як нам прапануецца) дзяржаўнай мовай нашай роднай мове, як не ў Беларусі? Для рускай мовы дзяржаўны абсяг і статус — у Расіі, для польскай — у Польшчы, для французскай — у Францыі, для нямецкай — у Германіі... Чаму ж наша пявучая, мяккая, багатая славянская мова не можа быць гаспадыняй на сваёй зямлі? У рускай мовы выдатны статус мовы міжнацыянальных стасункаў і куды якія спрыяльныя мажлівасці бытавання і развіцця. Навошта ж сутыкаць ілбамі дзве братнія мовы, груба ўлазіць у вельмі далікатнае, складзенае вякамі і пакаленнямі іх суіснаванне? Можа, хай лепш само жыццё, а не імгненныя (па гістарычных мерках) палітычныя і асабістыя інтарэсы ўносяць у нацыянальную справу карэктывы і ўдакладненні?..

Пытанне другое: «Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь?»

Не хачу вяртацца да дыскусій пра бел-чырвона-белы і чырвона-зялёны сцягі, пра «Пагоню» і «вянок» каласоў з сярпом і молатам. Перакананы, што самае важкае права на высновы тут трэба аддаць вучоным гісторыкам. Яны павінны праз глыбіні стагоддзяў прасачыць і асаблівасці нашай дзяржаўнасці, і вытокі нашай сімволікі, і непаўторныя рысы нашага характару. І пры гэтым не забыцца, што народнае жыццё ладкуецца не адным пакаленнем і вымяраецца не адным векам і не адным рэвалюцыйным узрушэннем.

Мяне вельмі турбуе іншае — у што выльецца для працоўнага люду змена дзяржаўнай сімволікі (калі будзе прынята такое рашэнне). Хіба мы такія багатыя, каб, напрыклад, лёгка кінуць пад нож ці ў касцёр аддрукаваныя, але не ўручаныя нам пашпарты — збаёдаць агромністыя сумы ў валюце? І трэба ж будзе друкаваць новыя — зноў давядзецца траціць мільёны даляраў. А бланкі, пячаткі, пасведчанні, шыльды, кукарды, значкі, плакаты, буклеты, паштоўкі, маркі і г.д. і да т.п. — грошы, грошы, грошы, грошы... І ўсё з кішэні грамадзян, з таго небагатага заробку падаткаплацельшчыкаў, якога ледзьве хапае на хлеб і цукар. Незразумелая палітычная логіка: просім людзей пацярпець недахоп цяпла ў кватэрах, электрасвятла на начных вуліцах і не просім пацярпець сцяг і герб, пад якімі наш першы Прэзідэнт кляўся дбаць аб дабрабыце народа. Чаму такая нервовая спешка?.. Заўважце, лічбы выдаткаў, якія пацягне за сабой змена сімвалаў, нікім не называюцца, нідзе не публікуюцца. Відаць, каб не выклікаць у людзей яшчэ адзін шок. Дык ці варта падтрымліваць няўзважаныя і, як кажуць фінансісты, непралічаныя прапановы?

І чацвёртае пытанне: «Ці згодны Вы з неабходнасцю ўнясення змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі?»

Адразу хачу звярнуць вашу ўвагу на этычны момант. Выбіраючы новы склад Вярхоўнага Савета, мы загадзя ўжо намякаем нашым абраннікам на магчымасць спынення іх дзейнасці Прэзідэнтам. Так сказаць, ківаем на іх пальчыкам і заклікаем быць паслухмянымі перад «бацькам». Неяк, па-мойму, не надта тактоўна.

Ёсць і яшчэ адна, так бы мовіць, жыццёвая тонкасць. І Прэзідэнта, і дэпутатаў выбірае народ — у прынцыпе адны і тыя ж людзі. А давер атрымліваецца як быццам і не роўны: многія дзесяткі парламентарыяў, выходзіць, могуць і памыліцца, а вось Прэзідэнт (адзін) — не. Нейкія неаднолькавыя адносіны да нашага выбару: то мы мудрыя, то не вельмі.

Самае ж галоўнае, што ўсе мы мелі мноства магчымасцяў пераканацца, як нашы недасканалыя законы амаль супрацьлегла трактуюць розныя галіны ўлады, як нават Канстытуцыю яны чытаюць кожная па-свойму. У такіх умовах, думаецца, не «дабаўленне» ўлады патрэбна ім, а ўменне захоўваць законы і несці адказнасць перад народам.

Таму і па чацвёртаму пытанню, як кажуць, ёсць пытанні. Напрыклад, што такое сістэматычнае або грубае парушэнне Канстытуцыі, хто будзе вызначаць парушана Канстытуцыя ці не, як пры гэтым будзе ўлічвацца думка народа?..

Дык ці варта без грунтоўнага абмеркавання грамадскасці, без тлумачэнняў спецыялістаў, без высвятлення адносін палітычных партый спяшацца ставіць сваё «так» ці «не»?..

Год назад, на прэзідэнцкіх выбарах наш народ паказаў, што ён не хоча ўжо бяздумна падпарадкоўвацца няпрошаным ідэалагічным настаўнікам і начальнікам і дружна «заваліў» кандыдатуру «рэальнага кіраўніка», «выратавальніка Беларусі», «бліскучага эканаміста», «сусветна вядомага палітыка». Цяпер практычна тыя ж нахабныя гарластыя прыблуды спрабуюць дыктаваць нам, як адказваць на пытанні рэферэндуму. Цану іх «дасведчанасці» і «сумленнасці» мы ўжо ведаем, бачылі, як лёгка і хутка памянялі яны «шэфа», перафарбаваліся ў барацьбітоў з карупцыяй і народных заступнікаў. Няўжо ж мы іх паслухаемся?..

У кожнага з нас ёсць галава на плячах. І ёсць яшчэ час усё ўзважыць і прааналізаваць, каб не памыліцца. Давайце будзем думаць!

**Генадзь БУРАЎКІН.**

Дарагі Спадар Генадзь!
Мы пагаджаемся з Вамі, што ў кожнага беларуса ёсьць галава, — але-ж хочацца ведаць, чым напоўнена гэтая галава...

**Сяргей ДУБАВЕЦ**

# У ЯМЕ

"Свабода"

Гэтыя пяць гадоў былі вялікай форай для беларушчыны. Мы капітальна адсталі, але пяць гадоў — таксама немалы тэрмін, калі нам развязвалі рукі. Нам не сказалі пры гэтым: вылазьце зь ямы, заваёўвайце прастору, — але гэта было зразумела і так. Мы сабраліся ў кучу, і адзін палез па плячах наверх. Потым другі, трэці. Няспрытна лезьлі, падалі, крык стаяў у вушах... Мы яшчэ не далезьлі. А пяць гадоў ужо сканчаюцца. Фора ня можа быць бясконцая.

Спачатку стварыўся агульны БНФ, які стаў рэальнай процівагаю русіфікацыі і камунізму. Першая купінка сярод балота. Першая апора. Ужо беларуская, ад якой можна было адштурхнуцца і зрабіць крок.

Калі БНФ вырадзіў Грамаду ды іншыя партыі — гэта ўжо была беларуская палітыка. Зусім новае поле, якое займала сабе прастору, выцясьняючы ў жыцьці і ў галовах людзей ранейшае беларуска-расейскае і дэмакратычна-камуністычнае супрацьстаяньне. Нашыя паўночныя суседзі далі прыклад таго, як нацыянальная палітычная прастора цалкам выцясьняе прастору нацыянальна-каляніяльна-акупацыйную. Літва пачала жыць літоўскім жыцьцём — з сваімі левымі, правымі і г.д. Без чужых прадстаўнікоў і чужых інтарэсаў. А мы спазьняемся. Мы спазьніліся роўна на этап.

Наша "агульная куча" ня стала дабратворным расплодзішчам беларускай палітычнай прасторы. Фронт, жорсткі да чужых, ня стаў пры гэтым клапатлівым бацькам і для сваіх. Свае тут нагадваюць народных дзяцей, якім мачыха чаўпе безь перастанку, што яшчэ не нагулялася сама. БНФ не стварыў сабе "тыльнага" іміджу. Ён — нібы наравісты падлетак, а ня мудры галава сям'і, якую дзеці пакідаюць не таму, што дасьпелі (яны якраз не дасьпелі), а таму што жыць у ёй стала невыносна. Ён — рэваншыст, а не кансэрватар. Буркаючы на чужых, ён буркае і на сваіх.

Адкуль бы ўзяліся сёньня гэтыя "дэмакраты-раскольнікі", калі б БНФ культываваў шырыню поглядаў, прыцягваў да сябе дэмакратычную інтэлігенцыю, яшчэ ўчора — спрэс рускамоўную? Зь іншага боку, выступы па-расейску старшыні "ценевага кабінэту" гучаць не інакш, як нонсэнс. "Ему как бы не веришь"...

Мы не занялі вырашальнае прасторы ў палітыцы, мэтадалягічна тое самае адбылося і ў культуры. Беларусізацыя і дэсаветызацыя, узначаленыя БНФ, далі недастатковы плён. Фронт, які напачатку аб'ядноў усю несавецкую беларускую інтэлігенцыю, не стварыў культурную прастору, якая б выцесьніла ў сьвядомасьці людзей папсаваную расейшчыну і савецчыну, а стварыў каставую, партыйную культурку БНФ, зусім на ўзор савецкай, дзе ўсё пераважыла "сознательность" стваральнікаў. Дэкамунізацыя далей вонкавых праяваў не пайшла і мэнтальнага ўзроўню не кранула. Тое ж адбылося зь беларусізацыяй, з масавымі стэрэатыпамі. Да прыкладу, тэма мінулай вайны, якая шмат што вызначае ў Беларусі, не была пераведзеная ў нацыянальную палемічную прастору (жыцьцё пад акупацыяй: пэрсаналіі, роля БКА, СБМ, савецкай і польскай партызанкі і г.д.), а засталася ўвогуле на "агульнасаюзным" узроўні.

Нарэшце, тое самае адбылося з мовай. Беларуска-расейскае супрацьстаяньне не было выцесьненае ў друку і сьвядомасьці людзей шырокімі ўнутрыбеларускімі палемікамі, напрыклад, наркомаўска-тарашкевіцкай, бо тарашкевіца не набрала дастатковае масы аргумантаў. Замест таго, каб набіраць гэтыя аргументы, абаронцы мовы зьвяртаюцца ў міжнародныя інстанцыі, таму што "не адчуваюць клопату" беларускай дзяржавы. Вось і ўсё. Прыйдзі ААН, вярні нам мову... Гэтыя апэляцыі гучаць як звароты ў прафкам ніякаватага мужыка, прыгнечанага дэспатам-жонкай. Ну, зрабі што-небудзь сам, мужык! Прыдумай хітры плян, паспрабуй, дай кухталя, ды хоць бы пасьмейся зь яе...

У выніку аж тры сьнежныя камы коцяць сёньня на рэфэрэндум, каб абрушыцца на галовы — і гэта ясна кожнаму — пахавальнай лавінай.

Пералічаныя недаробленыя прасторы і былі па сутнасьці стваральнай задачай БНФ на гэтыя пяць гадоў. І не сказаць, каб не "рабіліся захады". Але галоўнай задачай стала міжпартыйная і парляманцкая барацьба, якая дыктавала зусім процілеглую ўмову — каставасьць, бескампраміснасьць, замкнёнасьць.

Тыпалягічна БНФ ператвараўся ў арганізацыю нацыянальнай меншасьці, якая вядзе барацьбу за прадстаўніцтва ў парляманце. Яго тактыка — гэта тактыка Звёнзку полякув на Літве, а ня тактыка Саюдзіса. Фронт мучаецца ў сваёй меншаснай абмежаванасьці, але пераадолець яе ня можа. Закаранелы апазыцыянэр, ён ня ведае пачуцьця гаспадара краіны, і ўлада дастаецца "каму ня лень".

Увесь гэты час ішло толькі экстэнсыўнае прырашчэньне беларушчыны — працавалі прырода, традыцыя і прыклад "рэспублік-сясьцёр". Усе астатнія — у тым ліку і Фронт — былі толькі "на службе" або "на падхопе". Кожны знойдзе сабе апраўданьне, але суцяшэньня няма. Гамлетаўскае пытаньне вісіць над нацыяй, і няма волі, якая б раз назаўсёды адказала на яго.

Пяць гадоў назад стварылася ядро — і гэта самае большае, што было зроблена за пяць гадоў, бо дзялілася ядро ўжо не па-людзку. І сёньня, калі фронтаўцы зноў аптымістычна абяцаюць сабе 50% на парляманцкіх выбарах, я думаю — успомніце свой аптымізм на прэзыдэнцкіх. Успомніце, каб не насіць ваду ў рэшаце, каб не набіваць сабе прыхільнікаў адно дзеля таго, каб пасьля іх страціць. Успомніце, колькі народу вы прывялі ў Вярхоўны Савет на мінулых выбарах, у тым ліку і цяперашняга прэзыдэнта...

На гэтых выбарах вы яшчэ можаце застацца пры сваіх мандатах, можаце не застацца, можаце павялічыць "апазыцыю БНФ". А тое, што Лукашэнка выйграе свой рэфэрэндум, — гэта пэўна.

Яшчэ ніводзін з нас не далез да краёў ямы. Яшчэ ніводзін ня бачыў — як там...

---

*ПРА БЕЛАРУСКІЯ СКАРБЫ, РАСЦЯГНУТЫЯ ПА СВЕЦЕ*

"Голас Радзімы"

# ШТО МЫ СТРАЦІЛІ...

АПОШНІМ ЧАСАМ усё часцей даводзіцца чуць, што нам, беларусам, засталася вялікая спадчына.

Так, сапраўды мы ўжо ведаем пра нашу архітэктурную спадчыну (7 тамоў "Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі"), пра мастацкую (5 тамоў "Гісторыі беларускага мастацтва"), пра славесную і музычна-песенную фальклорную спадчыну (30 тамоў "Беларускай народнай творчасці"), пра літаратурную (2 тамы "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры"), пра этнаграфічную ("Этнаграфія Беларусі") і інш.

Але з-за свайго геаграфічнага размяшчэння ў цэнтры Еўропы, паміж больш буйнымі дзяржавамі, якія заўжды імкнуліся далучыць Беларусь да сваіх уладанняў і часта ваеннымі дзеяннямі высвятлялі свае адносіны на яе тэрыторыі, мы страцілі большую частку нашых нацыянальных каштоўнасцей. Пакуль што не напісаны тамы пра нашу страчаную спадчыну. Урад БССР лічыў гэту справу не вартай дзяржаўнай увагі. Яе рабоча-сялянскаму электарату старажытныя каштоўнасці ўяўляліся буржуазным блюзнерствам. Гэтакія ж адносіны да праблемы вяртання былі і ва ўрада Кебіча. Нічога не змянілася і цяпер. Навуковымі доследамі ў справе вяртання займаецца кучка энтузіястаў, згуртаваных пры Беларускім фондзе культуры на грамадскіх пачатках.

А нашы суседзі на Украіне і ў Расіі даўно стварылі дзяржаўныя структуры, якія займаюцца як навуковымі доследамі (каб высветліць, куды трапілі каштоўнасці), так і практычнымі намаганнямі, каб вярнуць іх на месцы былога знаходжання. Напрыклад, усе ўрады Польшчы і Літвы (як буржуазныя, так і савецкія) займаліся гэтай справай і многае вярнулі сабе. Нашым уладам трэба было б мець на ўвазе, што вернутая спадчына мае не толькі вялізную духоўную каштоўнасць, а яшчэ і значную фінансавую. Выдаткі на фінансаванне доследаў і практычных дзеянняў акупяцца з лішкам.

Каб вярнуць страчаную нацыянальную спадчыну, і неабходна сабраць інфармацыю аб тым, што Беларусь мела калісьці, што ў ёй яшчэ засталося, а што ўжо знішчана ці вывезена ў віхуры войнаў.

Працэс накаплення каштоўнасцей у Беларусі адбываўся як і ў іншых краінах: спачатку пры храмах і манастырах, а пазней у княжацкіх палацах і маёнтках буйной і дробнай шляхты, у гарадскіх сядзібах, а з XVIII стагоддзя пры навучальных установах, гарадскіх і губернскіх музеях.

Напрыклад, у XII стагоддзі дзякуючы мецэнацкай і асветніцкай дзейнасці полацкай князёўны Ефрасінні стварылася полацкая бібліятэка ў выніку перапісвання кніг святога пісання. Яна ж заказала вядомаму ювеліру Лазару Богшу зрабіць напрастольны крыж для Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку, які стаў творам сусветнага значэння (знік у час другой сусветнай вайны). Менавіта Ефрасіння прывезла з падарожжа ў Ерусалім знакаміты абраз Маці Божай Эфескай. Але ўсё гэта мы страцілі.

У XIV--XV стагоддзях значныя каштоўнасці былі сабраны пры слуцкім Трайчанскім манастыры, які фундавалі слуцкія князі Алелькавічы (кнігі рукапісныя ў шыкоўна аздобленых срэбраных аправах з каштоўнымі каменнямі, творы культавага прызначэння -- крыжы, пацiры, абразы, адзенне з каштоўных тканін і шмат іншага). І гэта мы не захавалі.

У XVI стагоддзі пачынаюць збіраць уласныя зборы каштоўнасцей беларускія магнаты, сярод іх вылучаюцца зборы князёў Радзівілаў. У гэты час яны ўжо мелі ў Нясвіжскім палацы сістэматызаваную нумізматычную калекцыю, вялікую бібліятэку, карцінную галерэю, архіў Вялікага Княства Літоўскага, а таксама ўласны архіў.

Да XVI стагоддзя значны збор каштоўнасцей сабралі ў Слуцкім замку князі Алелькавічы.

У XVII стагоддзі князі Сапегі сабралі мастацкія і кніжныя каштоўнасці пры Ружанскім палацы, так званы "Сапежанскі збор", а Багуслаў Радзівіл скамплектаваў каштоўны бібліятэчны збор пры Слуцкім палацы, уключыўшы ў яго склад і частку бібліятэкі Алелькавічаў.

Значна пашырылася колькасць уласных збораў каштоўнасцей у XVIII стагоддзі. Сапегі перавезлі збор у свой новы палац у Дзярэчыне і стварылі там музей, карцінную галерэю і архіў.

Радзівілы ўзбагацілі свае калекцыі новымі мастацкімі творамі -- заказалі мастакам напісаць серыю жывапісных партрэтаў сваіх шматлікіх сурод зічаў, вырабіць на сваіх ткацкіх мануфактурах у Нясвіжы і Карэлічах серыю габеленаў, якія адлюстроўвалі гісторыю роду Радзівілаў; дапоўнілі свае калекцыі заходнееўрапейскага шкла, фаянсу і фарфору творамі мастакоў, вырабленымі на ўласных шкляных і фаянсавых мануфактурах у вёсках Белая, Свержань, Урэчча, Налібокі і ў іншых.

Яны ж сабралі значныя музейныя калекцыі ў сваіх маёнтках у Клецку, Капылі, Карэлічах, Цімкавічах.

Музей, бібліятэку і карцінную галерэю стварыла Полацкая езуіцкая калегія.

Уласныя музейныя, бібліятэчныя і архіўныя зборы мелі ў XVIII стагоддзі ў сваіх палацах князі Агінскія ў Слоніме, графы Антон Тызенгаўз у Гродне, Зорыч у Шклове, Іяахім Храптовіч у Шчорсах і Вішневе, шляхціцы Я. Стравінскі ў маёнтку Накрышкі (каля Навагрудка), Слізень у маёнтку Бортнікі таксама каля Навагрудка. Сабралі калекцыі мастацтва і іншыя шляхціцы.

Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай на працягу 1772--1795 гадоў, у склад якой Беларусь была ўключана як Вялікае Княства Літоўскае, самыя значныя каштоўнасці ад нас няспынна вывозіліся ў Расію пры розных абставінах. І гэты працэс працягваўся больш чым дзвесце гадоў, аж да распаду СССР.

У першай палове XIX стагоддзя прыватныя зборы каштоўнасцей мелі ў сваіх палацах графы Мікалай Румянцаў у Гомелі, Канстанцін Тызенгаўз у Паставах, Тышкевічы ў Лагойску.

Музейныя калекцыі ў сваіх гарадскіх сядзібах у гэты ж час сабралі Дзмітро Янчыц у Прапойску, М. Гаўсман і Ю. Кабылінскі ў Мінску, князь Чацвярцінскі ў Гродне, князі Друцкія-Любецкія ў Шчучыне. Шмат музейных збораў, у тым ліку мастацкіх, кніжна-рукапісных, археалагічных і нумізматычных, сабрала беларуская шляхта ў сваіх маёнтках: Гарадзея (каля Кобрына) належала А. Урбаноўскаму, Краслаўка і Бяльмонты -- Плятарам, Дабраўляны -- А. Гюнтару, Мсціж -- І. Слізеню, Дукора -- Оштарпам, Беніца -- Швайкоўскаму, Гарадзілава -- Пузыну, Рось -- Браніцкаму, Раванічы -- Славінскаму, Паланечка -- Радзівілам, Пескі -- Пуслоўскім, Чарэя -- А. Сапегу, Лешня (каля Маладзечна) -- Саковічам і інш.

У другой палове XIX стагоддзя сабралі музейныя калекцыі графы Паскевічы ў Гомельскім палацы, Пуслоўскія -- у Косаўскім. Літаратурна-краязнаўчыя музеі былі заснаваны прыхільнікамі беларускіх старажытнасцей А. Ельскім у Замосці (каля Пухавіч), Э. Чапскім (каля чыгуначнай станцыі Койданава) і інш.

На працягу XVIII--XIX стагоддзяў на Гомельшчыне былі сабраны багатыя музейныя і архіўныя зборы Халецкімі ў маёнтках Хальч, Навасёлкі і Анопаль (раней Кропіцы) і Уняхоўскімі ў Русінавічах. На Віцебшчыне мастацкія каштоўнасці сабралі Валадковічы -- у маёнтках Чашнікі і Смальяны; Зыбер-Плятары і Рудніцкія ў маёнтку Дзедзінка; гетман Геранім Жаба -- у маёнтку Лужкі.

У маёнтках Ваньковічаў Смілавічы і Шыпяны таксама былі каштоўныя зборы, у тым ліку старажытныя архівы Агінскіх, Ваньковічаў, Манюшкаў, з якімі ў іх былі сваяцкія адносіны.

У выніку шматвяковай збіральніцкай і мецэнацкай дзейнасці беларускай шляхты ў другой палове XIX стагоддзя ўжо ўзнікла некалькі публічных музеяў у гарадах: Магілёўскі музей пры губернскім статыстычным упраўленні -- у 1867 годзе, Магілёўскі царкоўна-археалагічны музей -- у 1897 годзе, Віцебскі царкоўна-археалагічны -- у 1893 годзе, Мінскі царкоўна-археалагічны -- у 1908 годзе.

Такім чынам, да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў музеях, палацах, сядзібах, маёнтках, манастырах і храмах былі сабраны шматлікія каштоўнасці. Цяпер узнікла праблема перад нашымі навуковымі і музейнымі арганізацыямі высветліць, што мы страцілі і куды нашы каштоўнасці трапілі.

Я прапаную беглы агляд, які раскрывае толькі вяршыню айсберга, што мае назву "Страчаныя Беларуссю каштоўнасці". З майго агляду шаноўны чытач даведаецца аб трагічным лёсе каштоўнасцей Нясвіжскага замка Радзівілаў, Ружанскага і Дзярэчынскага палацаў Сапегаў, Лагойскага палаца Тышкевічаў, Гомельскага палаца Румянцавых і Паскевічаў, а таксама многіх іншых.

Пра гэта -- у наступных публікацыях.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

# ПАКІНЬЦЕ БЕЛАРУСЬ ЕЎРОПЕ. ДАЙЦЕ НАМ ШАНЦ ГАНАРЫЦЦА РАДЗІМАЙ

"ЗВЯЗДА"

Разумею, што мой ліст нікога не перакanае і не пераробіць; але не напісаць не магу: хочацца скінуць камень з сэрца.

Разам з іншымі беларускімі студэнтамі я трапіў на стажыроўку ў Брусель. Звестак пра падзеі на Беларусі сюды далятае няшмат, але адно зразумела: магчыма, вяртацца мы будзем на Беларусь, якая адмовілася ад роднае мовы і ад сябе.

Нідзе так не адчуваеш патрэбы ў матчыным слове, як на чужыне, як ні банальна гэта гучыць. Хіба мы, студэнты, спявалі ў Мінску «Купалінку», «Перапёлачку» ці «А я лягу-прылягу», якія спяваем тут, у сталіцы Еўропы? У будзённай мітусні жыцця на Радзіме мы не адчуваем сваёй адметнасці, не здагадваемся, што думаем, успрымаем свет, нарэшце, ямо не так, як іншыя народы, нават славянскія. І не горш, далібог, не горш за іншых. Тут, у Брусэлі, мы ўсе, і беларусы, і беларускія украінцы, і беларускія рускія, ганарымся сваёй беларушчынай, бо яна вылучае нас, робіць каштоўнымі для свету.

Сэрца шчыміць, сэрца ляментуе, а што напісаць — не ведаю. Ну што я магу сказаць апроч таго, што беларуская мова не горшая за іншыя (паверце мне, я валодаю яшчэ чатырма мовамі, акрамя беларускай ды рускай) і беларуская культура не драбнейшая за еўрапейскія; тут, у Еўропе, мы пачуваемся добра, нават паглядаем на іншых, грэшныя, звысоку, бо сярод еўрапейцаў мы, беларусы, — калі жывеш сярод прадстаўнікоў двух тузінаў народаў, лёгка выявіць уласныя адметныя рысы — дык вось, мы, здаецца, вылучаемся нейкай шляхетнасцю, высокародствам, пачуццём годнасці і годнай стрыманасці. Нам бы яшчэ грошай паболей! Мы не дурнейшыя за іншых, працавітыя, упарта-цярплівыя, значыцца, будзем багатымі.

Ведаю, шмат каго са старэйшых раздражняе «Пагоня», непакоіць вяртанне беларускай мовы, яны клянуць Гарбачова, Шушкевіча, Пазняка, якія, маўляў, «развалілі Саюз». Яны не тых клянуць, каго трэба, бо вінаватыя хутчэй мы, маладыя. Мы прагнулі і прагнем незалежнасці, волі, і я ніколі не пагаджуся з тымі, хто кажа, што мае памкненні благія. Мае сябры і я гадаваліся з марай пра адраджэнне, чакалі свабоды, віталі свабоду, змагаліся на мітынгах, у спрэчках (ці хай сабе толькі ў думках) за дэмакратыю і незалежнасць, мы верылі і верым, што пабудуем новы, беларускі лад, лепшы, справядлівы, заможны, еўрапейскі. Беларусь — занядбалая, жыццё — змрочнае, але нашы жаданні добрыя, мы, маладыя, любім Бацькаўшчыну, а значыць, усё мае быць добра. Для мяне незалежнасць і беларуская мова — гэта першаснова будучага дабрабыту, гэта тыя словы, «праз якія ўсё паўстала», альфа і амега. Гэта больш, чым сімвалы. Але разам з тым яны могуць стаць і вогненным «мэнэ, тэкел, фарэс» нашай гісторыі. І калі я трызню, што дзеці змогуць вучыцца на родных мовах, не пагарджаючы агульнанацыянальнай беларускай, дык проста таму, што добра памятаю, як у пяць год мяне ўзяліся спехам вучыць рускай мове, каб я меў магчымасць пайсці ў школу, бо ў Брэсце ўсе школы былі рускія. Няўжо маё дзіця некалі зноў...

Для мяне, як і для ўсяго свету, Беларусь — гэта «Пагоня», бел-чырвона-белыя колеры, і Ярся, які касіў канюшыну, я ўяўляю сабе ў белай світцы са сціплай чырвонай вышыўкай. З каласоў, сярпоў ды молатаў барадатага Фідэля кпіць увесь свет; ці ж нам прыпадабняцца да Кубы ды Паўночнай Карэі, дзе людзі пухнуць з голаду? Еўропа — прыклад для нас. Сімволіку тут не мянялі спакон вякоў, людзі трымаюцца сваіх моў, абараняюць іх ад панавання англійскай. Чэхі, славакі, нарвежцы, што былі амаль забылі свае мовы, схамянуліся, адны — у сярэдзіне XIX, другія — на пачатку XX ст. і здолелі адрадзіць страчанае. Прымусьце чэха галасаваць за тое, каб нямецкая мова зноў стала дзяржаўнай у Чэхіі!

Зрэшты, Еўропа, якая толькі-толькі пачынала шанаваць маладую беларускую нацыю, што мужна змагаецца з наступствамі Чарнобыля, што без бунтаў і рэвалюцый, цывілізавана імкнецца перадолець крызіс, што мудра выракалася атамнай спадчыны СССР, цяпер гэта Еўропа бярэцца кпіць з нас. «Рэферэндум пакажа, ці гэтая(беларуская) нацыя — нацыя рабоў, бо толькі для рабоў і вар'ятаў мінулае і культура каштуюць танней за пляшку гарэлкі», — піша бельгійская газета «Тэйд», і яна мае рацыю.

Гадзіну ўжо пішу, І вось раптам усвядоміў, якая менавіта думка ціснe сэрца: калі Беларусь не хоча быць Беларуссю, я ёй не патрэбны. Некалькі гадоў таму я быў ашаломлены, даведаўшыся, што Сяржук Сокалаў-Воюш з'ехаў у Амерыку. Як мог чалавек, які напісаў:

*Мне краёў чужых не трэба, як ні варажы,*
*Не хачу чужога хлеба, радасцяў чужых,*
*Бо чужына сэрца джаліць, цісне, як змяя,*
*Бо гукае з дальніх даляў Беларусь мая, —*

як мог ён паехаць шукаць заможнага жыцця? Магчыма, калі-небудзь зразумею яго. Не ведаю. Але я хачу, каб Беларусь была Беларуссю, а інакш можа, сапраўды, не вяртацца дахаты? Тут, прынамсі, і хлеб, і да хлеба, ды і свабода заўсёды гарантаваныя.

Карціць на Беларусь...

*Брусель.* **Андрэй ДЫНЬКО.**

---

***Вячаслаў ЛАПЦІК, "Рэспубліка"***

**Такой нахабнай "акупацыі" возера і яго берагоў ніколі яшчэ не было. І гэта ў той час, калі Нарач задумалі абвясціць рэспубліканскім нацыянальным паркам...**

**Непаўторныя мясціны цуда-возера могуць запаланіць любога, і, пабываўшы тут хоць адзін раз, адчуваеш, што магічная сіла прыгажосці зачаравала на ўсё жыццё. Зіхатлівымі летнімі днямі, калі разамлелая жывіца капае са стромкіх векавых соснаў, здаецца, апынуўся не на беразе возера, а каля чароўнага люстэрка. Некалі дваццацікапеечная манета была відаць на глыбіні сямі--дзевяці метраў. Але гэта ўсё было раней.**

ЛЕТАСЬ у мяне запыталі: ці праўда, што на Нарачы масавы замор вугра? Рыбы, якую не проста з'ясі за сталом і прыцмокнеш ад смакаты, а нават пальчыкі абліжаш. Усё так: прыехаўшы сюды, быў шакіраваны -- усходні бераг насупраць вёсак Пасынкі, Чараўкі і Сіманы закіданы дохлым вугром. Пабялелы і смуродлівы, кавалкамі гнуткага шланга ён валяўся па ўсім беразе. Вугор -- донная рыба. І калі нейкая навала дабралася да глыбіні, тады можам уявіць, якое "здароўе" у берагавой рыбы.

Сёння ад славы некалі рыбнага возера засталіся адны ўспаміны. Цяжкімі бруднымі талеркамі плаваюць па вадзе смуродлівыя плямы. Мінулым летам у многіх адпачываючых дзетак на ножках і вышэй высыпалі і падпухлі чырвоныя нарыўчыкі. Толькі залезе дзіця ў ваду пакупацца -- адразу "пакаранне". У дарослых такая скурная хвароба сустракалася рэдка. Усё расшыфроўваецца проста: дарослы чалавек залазіць у ваду глыбей, дзеці бултыхаюцца ля берага, вось і прыліпае ўсякая брыдота.

-- У маленькіх пачынаецца галаўны боль і падымаецца тэмпература, -- сказаў галоўны санітарны ўрач Мядзельскага раёна Віктар Брагінец. -- Звязана гэта з велізарным прытокам лебедзяў і качак, якія запаланілі возера. Птушак тут кормяць з рук, з-пад вадаплаўных асядаюць на дно "адходы". Людзі і плёскаюцца сярод іх.

Пляжы тут нібыта і можна назваць пляжамі. Але толькі таму, што жанчыны ходзяць у купальніках, а мужчыны ў плаўках. На беразе стаяць адзінокія кабіны для пераапранання. Марожанага або напітку не купіш, схавацца ад промняў сонца няма дзе. У на хуткую руку зробленых туалетах -- поўная антысанітарыя, зайсці сюды можна толькі ў процівагазе. Адпачываючыя са стажам кумекаюць "пабегаць" па бліжэйшых кустах, быццам назіраючы за стромкімі елкамі. Вецер ганяе рваныя паперы, чарнеюць ад процьмы мух аб'едкі.

Праблемы экалогіі для раёна, на тэрыторыі якога 50 азёр і больш за




сто рэчак, засталіся на заднім плане. Я азнаёміўся з распараджэннем Мядзельскага райвыканкома ад 14.06.94 г. аб рабоце па ахове прыроды. Па традыцыі тут сышліся на самым простым: арганізаваць рэйды і выезды. У пункце трэцім сказана аб арганізацыі стаянак для аўтамашын у шасці месцах.

Месцы гэтыя толькі па назве адпавядаюць аўтастаянкам. Яны заасфальтаваны, размешчаны каля аўтадарогі і недалёка ад возера. Але тут знойдзеш не больш дзесятай часткі самага мінімальнага сервісу, неабходнага аўтааматару. Вакол аўтастаянкі, што каля вёскі Антанінзберг, скрозь чорныя выжарыны бялеюць свежыя пянькі ад тонкіх бярозак /дрэўцы ссякаюць на падпоркі для палатак/, усё закідана аб'едкамі і грудамі пустых бляшанак. Узвышкі смецця высыпаны прама на дарогу.

Райінспекцыя па экалогіі робіць свае рэйды. Як сказаў яе начальнік Святаслаў Хіло, тут стараюцца не пакідаць без увагі любы факт парушэння. Пранырлівых лёгка было б прыструніць, калі б як след біць па кішэні. Але штрафы ж пакуль такія, што боязі амаль ніякай.

... Два-тры гады назад на дарозе з усходняга боку Нарачы не спынялася ніводная машына. Шаша праходзіць за некалькі дзесяткаў метраў ад возера, таму стаянка забаронена, пра што папярэджваюць дарожныя знакі. За кіламетр адсюль, каля вёскі Антанінзберг, адкрыта адна аўтастаянка, за кіламетраў пяць у бок Мядзеля знойдзеш яшчэ адну. Калі машына спынялася прама на шашы і пасажыры спяшаліся да вады, тут жа падрульваў інспектар ДАІ, складаўся пратакол, і парушальнік адразу з'язджаў.

Сёння ж на дарожныя знакі ўсім напляваць. Цяпер машынамі забіта ўся прыазёрная шаша ад курортнай зоны і да вёскі Чараўкі. Едуць на самы бераг возера. Дзесяткі машын спыняюцца прама на сенакосных дзялянках. Каля вёскі Сіманы, дзе сяляне пастаянна касілі сена, цяпер цэлыя дарогі.

Не тое што касіць, тут хадзіць няма дзе! Стаяць машыны, дымяцца вогнішчы, размяшчаюцца палаткі...

-- Нарач -- адзінае такое возера ў Беларусі, і яго сёння трэба ахоўваць, як ніколі, -- пагадзіўся інспектар Мядзельскай ДАІ Іосіф Церашкевіч. -- Жыццё падказвае: каб абараніць такі цуд ад вадзіцеляў-нахабнікаў, якіх у апошні час процьма, "простага" закону мала. Трэба ўвесці самыя вялікія штрафы. І штрафаваць бязлітасна.

Калі ж без высокіх разважанняў /якіх было, заўважым, дастаткова/, а падыходзіць больш практычна, то можна дзейнічаць так: спыніў машыну на беразе возера -- 300 тысяч рублёў штрафу, з'ехаў на сенакосную дзялянку -- 500 тысяч рублёў. Абвясціць пра такое па ўсяму раёну, на *пад'ездзе да Нарачы* выставіць стэнды пра новыя штрафы і пакаранні -- і ўсё зменіцца. Нездарма ў ЗША пры дарогах вісяць шчыты аб'яў, вельмі кідкія і лаканічныя: "За пакінутае смецце -- штраф 100 долараў". Дапамагае!

Ці выконваем тое, што прадугледжана рознымі пастановамі? Некалі, як для насмешкі, курортную каналізацыйную сістэму праклалі... ледзь не па самым беразе возера. І пачалося... Прарыў каналізацыі -- і трапляюць у возера нечыстоты. За год трубы прарывала па 10--20 разоў! Уявіце, колькі брыдоты праглынулі нарачанскія тоні.

Урад рэспублікі ў свой час прыняў чатыры пастановы /ну, колькі яшчэ можна!/ па ахове Нарачы. Пераважная большасць мерапрыемстваў, прадугледжаных, напрыклад, пастановай N 325 ад 9 кастрычніка 1981 года, не выканана. Цяпер прапаноўваецца праект яшчэ аднаго закона аб Нарачанскім краі. Я чытаў яго, удумваўся ў гэтыя тэзісы. На бюро Экалагічнай камісіі АН Рэспублікі Беларусь яго разглядалі і, між іншым, не прынялі.

А мо, дастаткова цыркулярщчыны? Ці не разумней паставіць задачу выканаць усе мерапрыемствы па ахове прыроднага ландшафту, якія распісваліся раней? Бо яны сёння ніяк не стрымліваюць спажывецкіх памкненняў у адносінах да нарачанскай прыроды. Асабліва з боку ўсемагутнай нованароджанай "эліты".

-- У водаахоўнай зоне нічога нельга будаваць, -- выказалася галоўны архітэктар Мядзельскага раёна Ірына Гушча. -- Можна толькі акуратна добраўпарадкоўваць вёскі.

Так павінна быць. Але... Сёння Нарач стала прынадай для многіх. Не мае значэння, урываюцца месцы для арганізацый або для асобных грамадзян. Засталіся свабоднымі яшчэ ўсходнія берагі, дзе размешчаны ціхія прыазёрныя вёсачкі. І цяпер навалай распаўзаюцца выдзялянкі па не захопленаму пакуль берагу, фугуюць "мерседэсы" і "форды" па ціхіх дарогах. Напэўна, шыкоўныя машыны занадта падкідвае на рытвінах, таму і разразаюцца землі водаахоўнай зоны асфальтавымі нажамі.

Для таго, каб ухапіць кавалак зямлі ў наваколлі прыроднай жамчужыны Беларусі, прымяняюцца два варыянты. З гадамі пакідаюць нас старыя людзі з прыбярэжных вёсачак, і застаюцца пасля іх хацінкі з участкамі. Хаткі для адводу вачэй і для "законнасці" купляюцца за мізэр -- і на сотках пачынаецца будаўніцтва салідных дач. Другі варыянт самы просты. Без лішніх фармальнасцей мясцовае кіраўніцтва бярэ і... выдзяляе ўчасткі.

-- Адкрываць запаведнік вакол Нарачы ўжо позна, -- гавораць вучоныя. -- Трэба ўтвараць нацыянальны парк.

Хочацца іх запэўніць: шаноўныя, калі нарачанскія землі будуць "асвойвацца" візіцёрамі такімі тэмпамі, то і нацыянальны парк стварыць не паспеем! І шыльдачку каля Нарачы паставім мадняцкую: "Нацыянальны дачны парк". Няхай пазайздросцяць суседзі з іншых краін, бо ім такое і не снілася.

Баюць старыя, што возера ўтварылася з асколкаў люстэрка, якое разбіла прыгажуня Аленка. І сама яна,ператварыўшыся ў беласнежную чайку, пастаянна жыве на яго берагах. Але жыве да таго часу, пакуль цуда-возера існуе. Як толькі вада крыштальнай чысціні стане мутнай, яна падымецца высока ў неба, жаласліва заплача над нарачанскімі тонямі і задыхнецца. Гора задушыць яе. А калі з такім імпэтам Нарач будзе "дабівацца" і далей, то жыць вадаёму і беласнежнай чайцы над ім засталося вельмі мала часу.

***Дзесяцігоддзямі дапытлівы чытач зведваў голад на аб'ектыўную інфармацыю аб жыцці беларускай эміграцыі. Цяпер ужо такога не скажаш. Цікавыя і праўдзівыя звесткі пра мінулае і сучаснае жыццё беларускіх эмігрантаў рэгулярна змяшчаюць нашы газеты і часопісы. Паспелі з'явіцца прысвечаныя данай праблеме брашуры і кнігі, у тым ліку напісаныя і самімі эмігрантамі. Пра адну з іх — "Беларусы ў ЗША" Вітаўта Кіпеля — і пойдзе ніжэй гаворка.***

З кнігі В. Кіпеля мы даведаемся і аб тым, калі ж усё-такі амерыканская афіцыйная статыстыка палічыла патрэбным назваць беларусаў іх сапраўдным імем. Вельмі позна — у 1980 годзе, калі праводзіўся перапіс насельніцтва. Беларусаў налічылі 7381 чалавек, з чым аўтар не згодзен і тлумачыць гэта досыць аргументавана.

Толькі пасля падрабязнага разгляду велізарнай колькасці літаратурных крыніц В. Кіпель пераходзіць да выкладу асноўных пытанняў праблемы. Першую хвалю эміграцыі з Беларусі ён з поўнай падставай адносіць да канца XVIII стагоддзя. Хто тады з беларусаў ступіў на амерыканскую зямлю, чытачу лёгка даведацца, прачытаўшы адпаведныя старонкі кнігі. Не выклікае пярэчанняў сцвярджэнне В. Кіпеля, што масавую эміграцыю з Беларусі трэба пазначаць апошнім дзесяцігоддзем XIX стагоддзя — пачаткам Першай сусветнай вайны. У адрозненне ад многіх даследчыкаў В. Кіпель справядліва лічыць, што, акрамя эканамічнага (як асноўнага) фактара масавай эміграцыі з Беларусі, істотна ўплывалі на гэта і палітычныя падзеі.

Выкарыстанне багатага фактычнага, найчасцей зусім невядомага нашым чытачам матэрыяла ў пытанні з гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША. Прачытаўшы кнігу В. Кіпеля, становіцца зразумелым, чаму па многіх пазіцыях так і не ўдалося дасягнуць згоды паміж "беларусамі-старажыламі" у ЗША і навічкамі.

Працягласць існавання, захаваная кожнай этнічнай групы на чужыне калі не цалкам, дык у вельмі вялікай ступені залежыць ад таго, наколькі гэтай групе ўдаецца ладзіць сваё жыццё паводле толькі ёй адной уласцівых нацыянальна-культурных традыцый. Гэта не было сакрэтам для паваеннай беларускай эміграцыі ў ЗША, улічваючы яе высокі ўзровень адукаванасці і нацыянальнай самасвядомасці. Прыведзеныя ў кнізе шматлікія факты актыўнага нацыянальна-культурнага жыцця нашых эмігрантаў шчыра радуюць. Гэтая радасць яшчэ больш узрастае ад усведамлення, што яны так моцна трымаліся, развівалі, узбагачалі свае духоўныя традыцыі ў час, калі апошнія ў Савецкай Беларусі падпалі пад мэтанакіраваную дэнацыяналізацыю. Усім сённяшнім беларусам метраполіі, што хварэюць на нацыянальны нігілізм, рэкамендую прачытаць у кнізе В. Кіпеля старонкі, дзе падаюцца шматлікія факты самых паважлівых адносін нашых супляменнікаў да роднай культуры і мовы.

# ЯКІЯ Ж ЯНЫ, АМЕРЫКАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ?

ЛіМ.

Леанід ЛЫЧ



## ПА СТАРОНКАХ КНІГІ ВІТАЎТА КІПЕЛЯ

З'явілася яна (дзякуючы клопатам выдавецтва "Беларусь") у 1993 годзе і хутка знікла з прылаўкаў кнігарняў. Спраўдзілася тое, што пісалася ў анатацыі да кнігі: "...зацікавіць як спецыялістаў — гісторыкаў, так і шырокія колы чытачоў, неабыякавых да праблем гісторыі Беларусі". Здзіўляе толькі, што гэтая, несумненна, вельмі патрэбная кніга належным чынам не ацэнена ў друку, хаця і мінула нямала часу з выхаду яе ў свет. А яна вартая ўвагі, бо роўнага ёй яшчэ не з'яўлялася ў айчынным і замежным друку.

Змест кнігі В. Кіпеля значна шырэйшы за яе назву. Тут ёсць і матэрыялы, якія датычаць тых ці іншых аспектаў эміграцыйнага жыцця ў іншых краінах, асабліва ў заходняй Нямеччыне, дзе ў першыя пасляваенныя гады сабралася вельмі шмат бежанцаў з Беларусі. Аўтар не абмяжоўваецца толькі тэрыторыяй ЗША і тады, калі аналізуе хвалі і прычыны эміграцыі з Беларусі, разглядае дзейнасць розных беларускіх эміграцыйных арганізацый, выдавецкую справу, беларусіку ў сродках масавай інфармацыі.

Дзеля ажыццяўлення пастаўленай мэты В. Кіпель правёў стараннае, грунтоўнае вывучэнне велізарнай колькасці рознага роду літаратурных крыніц і статыстычных даведнікаў, дзе хоць што-небудзь можна адшукаць са звестак аб эміграцыі з Беларусі. Цяжкасцяў на гэтым шляху было нямала і галоўная з іх, што вельмі доўгі час у літаратуры і афіцыйных дакументах беларусы проста не выдзяляліся з агульнай катэгорыі "расейцаў". Часта нашых суродзічаў яшчэ адносілі і да палякаў. "Стварылася парадаксальная сітуацыя, — справядліва заўважае аўтар, — з аднаго боку, вядомы факт, што беларусы прыязджалі ў Амерыку ў вялікай колькасці, а з другога боку, аб іх няма ніякае афіцыйнае статыстыкі. Гэта й было адной з галоўных прычын таго, што сотні прац аб амерыканскіх славянах зусім не згадваюць пра беларусаў".

Але тое, чаго не жадала паказаць афіцыйная статыстыка, імкнуліся хоць прыблізна адлюстраваць даследчыкі. Як вынікае з кнігі В. Кіпеля, адным з першых звярнуў увагу на гэтую праблему ў сярэдзіне 20-х гадоў Ф'ерыл Хэс. Ён выказаў меркаванне, што з агульнай колькасці расейскіх імігрантаў каля 200 тыс. чалавек на долю беларусаў даводзіцца 40 працэнтаў.

В. Кіпелем устаноўлены і такі цікавы факт, што першым у амерыканскай перыёдыцы ўжываў у 30-х гадах тэрмін "Беларусь" (Belorussia) прафесар Альберт Пэры.

Аналіз пасляваеннай эміграцыі з Беларусі і ў ЗША ялу дазволіла аўтару глыбока і ўсебакова раскрыць нялёгкае жыццё беларусаў гэтых дзвюх эмігранцкіх хваляў. Пахвальна, што сярод асветленых пытанняў ёсць і такое, якое нас сёння ў найбольшай ступені хвалюе: "Абуджэнне беларускае свядомасці". Яе стану на пачатку XX стагоддзя даецца такая — і вельмі слушная — характарыстыка: "Бальшыня пакідала родную глебу некранутая беларускім адраджэннем. Іміграніы называлі сябе "тутэйшымі". Расейскія і амерыканскія службоўцы называлі іх "расейцамі" або "палякамі". Гэтыя чужыя ім біркі, на жаль, прысталі да многіх". Але сярод беларускіх эмігрантаў усё больш і больш з'яўлялася людзей, якія глядзелі на сябе, як на прадстаўнікоў самастойнай этнічнай супольнасці. Спрыяла гэтаму і стварэнне на эміграцыі беларускіх нацыянальных арганізацый, дзейнасць якіх паказана з дастатковай паўнатой. Не абмінуты ўвагай і погляды прадстаўнікоў розных расейскіх эміграцыйных арганізацый на беларускае пытанне. Аўтар характарызуе іх пераважна з адмоўнага боку: "Бальшыня расейскіх арганізацый, цэркваў, газет, асабліва тыя, што ўзначаліваліся этнічнымі расейцамі (вялікаросамі), вельмі адмоўна рэагавалі на абуджэнне беларусаў. Яны зацята супраціўляліся любой праяве нацыянальнай свядомасці, нават найменшай згадцы пра асобнасць беларусаў". Гэтая высновa пацвярджаецца даволі пераканаўчымі прыкладамі, узятымі з практыкі ўзаемадачыненняў паміж расейскімі і беларускімі эмігрантамі ЗША.

З усіх хваляў беларускай эміграцыі самай масавай была пасляваенная. Паколькі гэтая хваля непасрэдна закранула і юнага В. Кіпеля, ён пастараўся самым грунтоўным чынам апісаць падзеі таго часу, бо інакш было б цяжка зразумець, чаму многія беларусы праз пэўны час выбралі сабе шлях у ЗША.

Выклікаюць зацікаўленасць спробы аўтара вызначыць адрозненні паміж беларускімі эмігрантамі, што накіроўваліся ў ЗША на пачатку і ў 40-я гады XX ст. У першым выпадку — гэта пераважна абяздоленыя сяляне, а ў другім — адукаваныя і палітычна свядомыя людзі, "як асобная, дакладна вызначаная этнічная група з сваім нацыянальным назовам". Гэта тлумачыць прычыну, чаму беларусы па прыбыцці ў Заходняе паўшар'е так імкнуліся да стварэння сваіх уласных палітычных, грамадскіх, культурна-асветніцкіх, рэлігійных арганізацый, чаго, вядома, аўтар не мог абмінуць у сваёй кнізе. На мой погляд, гэта адны з самых цікавых і вельмі патрэбных для такой кнігі старонак, знаёмства з якімі дае вычарпальныя адказы на многія

У адрозненне ад амаль суцэльна атэістычных жыхароў Савецкай Беларусі жыццё яе сыноў і дачок у эміграцыі было і ёсць моцна знітаваным з рэлігіяй. Паказу яе В. Кіпель надае шмат увагі. І вельмі важна, што праблема гэта асвятляецца без усялякага прыхарошвання. Асабліва шмат цяжкасцей з арганізацыяй рэлігійнага жыцця амерыканскіх беларусаў існавала на пачатку іх прыбыцця ў гэтую краіну.

Адводзячы найбольш месца раскрыццю рэлігійнага жыцця беларускай праваслаўнай і каталіцкай канфесій, В. Кіпель не пакінуў без увагі тых нашых супляменнікаў, што спавядаюць уніяцкую і пратэстанцкую веры. Шчыраму беларусу не можа не падабацца адданасць як першай, так і другой канфесій нашай нацыянальнай ідэі. Не цуралася, прыкладам, беларускай мовы ў час багаслужэння і заснаваная ў 1955 годзе ў Чыкага грэка-рымская беларуская парафія Хрыста Збаўцы, першым духоўным лідэрам і заснавальнікам якой быў добра вядомы ў ЗША рэлігійны дзеяч а. Ян Хрызастом Тарасевіч. Пра яе сучасны стан так пішацца ў кнізе: "Хоць гэтая парафія параўнаўча невялікая, царква Хрыста Збаўцы адыгрывае важную ролю ў беларускім жыцці Чыкага. Сваімі выданнямі, канферэнцыямі й выставамі парафія сталася добра вядомая амерыканскім беларусам". Ад 1974 года вядзе беларускія радыёперадачы праз радыёстанцыі ў Сан-Францыска і Монтэ-Карла Беларускае Евангельска-Баптыцкае Брацтва. Вялікі актывіст беларуска-пратэстанцкага руху а. Даніла Ясько ўклаў і пераклаў на беларускую мову ў 1979 годзе спеўнік "Гімны Хрысціян", куды ўвайшлі 604 рэлігійныя тэксты.

Цікавыя звесткі знойдзе чытач аб беларускіх стараверах, іудзеях і мусульманах.

Цікавы і раздзел "Адукацыйная дзейнасць". Ад апошняй і раней, і цяпер вельмі шмат залежыць, якой будуць беларуская нацыя і яе дыяспара. У метраполіі з-за выразна антынацыянальнага характару адукацыйнай дзейнасці беларуская нацыя падчас "гарбачоўскай перабудовы" ўжо ледзь не дыхала на ладан, чаго не скажаш пра нашу дыяспару. Тое, што рабілася ў гэтым плане беларускай эміграцыяй, мае сталае не толькі тэарэтычнае, але і прыкладное значэнне.

Прывабіць чытачоў і раздзел кнігі "Выдавецкая справа. Беларусіка ў сродках масавае інфармацыі". У ім вельмі скрупулёзна разглядаецца, дзе, калі і што з беларускай перыёдыкі і кніг з'яўлялася за мяжой. Няцяжка

ўявіць, наколькі гэта аблягчае працу тых, хто займаецца даследаваннем праблемы беларускай эміграцыі. Прычым аўтар не проста дае звычайную даведку пра той ці іншы перыядычны орган, а і гаворыць пра яго асноўныя накірункі, вызначае месца і ролю ў жыцці эмігрантаў. Дзякуючы карпатлівай працы В. Кіпеля мы атрымалі магчымасць даведацца, што пісалася пра Беларусь у розных англамоўных, украінскіх, рускіх і польскіх газетах. Чытачы, а сярод іх асабліва навукоўцы, будуць вельмі ўдзячнымі яму за раскрыццё той ролі, якую адыгрываюць амерыканскія бібліятэкі, навуковыя і навучальныя ўстановы ў прапагандзе і захаванні беларускай спадчыны. Найбагацейшы беларускі кнігазбор мае Нью-Йоркская публічная бібліятэка. Шкада толькі, што аўтар не знайшоў месца ў кнізе, каб пералічыць хаця б самыя каштоўныя і рэдкія кнігі гэтай вядомай ва ўсім свеце бібліятэкі.

Заключае кнігу вельмі актуальны на сёння раздзел "Сацыяльны партрэт амерыканскіх беларусаў". Працяглае жыццё аўтара за мяжою дапамагло яму не толькі стварыць аб'ектыўны сацыяльны партрэт эмігранта, але трохі заглянуць і ў яго будучае. В. Кіпель мае рацыю, калі піша, што ў далёкім мінулым пераважная большасць нашых суродзічаў у ЗША не мела выразнага ўяўлення пра сваю нацыянальнасць з прычыны адсутнасці ў іх на радзіме ўласнай дзяржавы. Аднак і пасля атрымання Беларуссю такога статуса мала хто з яе карэннага насельніцтва, падаўшыся ў міжваенны перыяд у эміграцыю, называў тут сябе беларусам. Калі яны чаго-небудзь моцна трымаліся, дык гэта той рэлігіі, якую спавядалі ў сябе на радзіме. Затое пасляваенную беларускую эміграцыю, большасць з якой вызначалася высокай нацыянальнай самасвядомасцю, характарызавала вялікая прыхільнасць да сваіх этнічных каранёў, культуры і мовы. Кожнага шчырага беларуса не могуць не радаваць такія радкі з кнігі В. Кіпеля: "Мова беларускіх эмігрантаў у ЗША адлюстраваная і ў мастацкай літаратуры. Беларуская мова разам з шматлікімі іншымі ўнесеная ў "Лінгвістычны банк Злучаных Штатаў".

Надаючы велізарнае значэнне ролі роднай мовы ў захаванні беларусаў ЗША як самастойнай этнічнай групы, аўтар справядліва лічыць, што яе існаванне зусім не зводзіцца да гэтага фактару. Свядомае імкненне беларусаў да самаідэнтыфікацыі праяўляецца таксама ва ўласцівых нашаму народу строях, умельствах і рамёствах, кухні, народных песнях і танцах, нацыянальных традыцыях.

Вялікага аптымізму адносна будучага лёсу эміграцыі ў кнізе няма, але, скажам, такое месца з яе не кідае ў роспач: "Беларускія традыцыі й звычаі са зменаю пакаленняў паступова трансфармуюцца й адаптуюцца да амерыканскага жыцця, аднак не знікаюць зусім, пакідаючы ў душы маладзейшых пакаленняў імігрантаў адзнаку непаўторнасці й святасці далёкае бацькаўшчыны".

Прыемна дапаўняе сацыяльны партрэт паваеннага беларускага эмігранта ў ЗША яго зайздросная напорыстасць любой цаной выбіцца ў людзі, не адстаць ад астатніх. Пацвярджаецца гэта такімі фактамі: 80% дзяцей нашых суродзічаў у ЗША вучылася ў каледжах. Пасля заканчэння адпаведных навучальных устаноў яны працуюць настаўнікамі, урадаўцамі, інжынерамі, менеджэрамі, лекарамі, адвакатамі.

На сёння кнізе В. Кіпеля няма роўных па колькасці выкарыстаных для напісання гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША замежных архіўных крыніц. Неацэнную каштоўнасць маюць і тыя фактычныя матэрыялы, што здабыты аўтарам падчас шматлікіх сустрэч з вядомымі асобамі беларускай дыяспары ці атрыманы ад іх у выніку ліставання. Вялікую стараннасць праявіў аўтар пры складанні геаграфічнага і імяннога паказальнікаў.

Сваю рэцэнзію хацеў бы закончыць тымі словамі, якімі канчаецца сама кніга: "Паўнейшае вывучэнне беларускае дыяспары як ў ЗША, гэтак і ў цэлым свеце павінна быць распачатае на бацькаўшчыне, і дзейнасць ды здабыткі эміграцыі павінны быць улучаныя ў агульны кантэкст развіцця беларускае нацыі й культуры". Сапраўды нельга ўскладаць надзею, што гэтую зусім нялёгкую для вучоных праблему можна вырашыць толькі за кошт высілкаў нашых супляменнікаў за мяжой. З пазіцый задач сучаснага нацыянальнага Адраджэння слушнымі падаюцца словы аўтара аб неабходнасці ўключэння духоўных здабыткаў нашых суродзічаў за мяжой у агульную скарбонку беларускай агульнанацыянальнай культуры, бо ад гэтага яшчэ больш узрасце аўтарытэт апошняй у вачах яе свядомых носьбітаў і тых, хто ўсё яшчэ ніяк не адважыцца ўключыцца ў працэс аднаўлення, умацавання нацыянальных пачаткаў нашага жыцця. Ставячы ў поўным аб'ёме духоўную спадчыну беларускай дыяспары на службу агульнанацыянальных інтарэсаў, вельмі важна не абмінуць каштоўных здабыткаў яе літаратараў і навукоўцаў ва ўзбагачэнні лексічнага патэнцыялу, у адпрацоўцы фанетычных і марфалагічных форм нашай роднай мовы. З яе багаццяў і адметнасцяў у творы нашых эмігранцкіх аўтараў трапіла гэтак шмат арыгінальнага, адмыслова беларускага, што яно проста само просіцца на старонкі мастацкай, публіцыстычнай і навуковай літаратуры.

## ЧАС СУСТРЭЧЫ ТРОХ ЛІДЭРАЎ ВЫЗНАЧАНЫ

ЗВЯЗДА

**У канцы мая — пачатку чэрвеня адбудзецца трохбаковая сустрэча кіраўнікоў дэмакратычных рухаў Беларусі, Расіі і Украіны Зянона Пазняка, Ягора Гайдара і Вячаслава Чарнавіла.**

Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ва Управе Беларускага народнага фронту, дагаворанасць аб гэтым дасягнута ў час рабочых кантактаў лідэраў партый «Дэмакратычны выбар Расіі» Ягора Гайдара і БНФ - Зянона Пазняка ў Мінску.

Мэта сустрэчы па задуме яе ініцыятараў -- распрацоўка сумесных скаардынаваных праграм захавання правоў і свабод чалавека, развіцця рынкавых рэформаў і станаўлення трох славянскіх незалежных дзяржаў.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, Белінфарм.**

*ПРАПАНОВА ТЫДНЯ*

**Актывісты польска-беларускага літаратурнага таварыства ў Беластоку на сваёй справаздачна-выбарчай канферэнцыі прынялі рэзалюцыю аб вылучэнні Васіля Быкава на атрыманне Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры.**

## Референдум в Белоруссии:
# ЯСНО, ЧТО НИЧЕГО НЕЯСНО

Александр СТАРИКЕВИЧ, «Известия»

14 мая в Белоруссии состоялись первый тур парламентских выборов и референдум по четырем вопросам. Их предварительные итоги еще более запутали и без того непростую политическую ситуацию в республике.

Что касается всенародного голосования, то уже сейчас ясно, что большинство жителей республики, обладающих избирательным правом, высказались положительно по всем вопросам. Однако в законодательстве не существует механизмов реализации решений, принятых на референдуме. Кроме того, существует ряд юридических нюансов, позволяющих по-разному трактовать итоги плебисцита.

В частности, вопрос «поддерживаете ли вы установление новых государственных флага и герба» не означает автоматического принятия новой символики. На это указывала и парламентская комиссия по законодательству, считавшая, что при такой формулировке референдум по этому вопросу (как и о поддержке действий президента, направленных на экономическую интеграцию с Россией) может носить только консультативный характер. Два других вопроса (о государственных языках и праве президента распускать парламент) и вовсе, по мнению законодателей, нельзя было выносить на всенародное голосование из-за противоречия их Конституции и Закону о референдуме. Так что неизвестно пока, во что в конечном счете выльется очередная попытка властей поинтересоваться мнением народа.

Из двухсот шестидесяти округов по выборам в Верховный совет в двадцати пяти к урнам для голосования пришли менее половины избирателей.

Наименьшую активность проявили жители белорусской столицы: из сорока двух округов выборы не состоялись в одиннадцати. Там же, где они прошли, в большинстве случаев во второй тур вышли представители белорусского Народного фронта и организаций прокоммунистической направленности. В регионах фаворитами оказались руководители сельского хозяйства и промышленности, а также врачи.

Уже в первом туре в новый парламент избраны председатель контрольной палаты Василий Сакович, лидер белорусских официальных профсоюзов Владимир Гончарик, советник президента Анатолий Лебедько и некоторые другие.

Большинству кандидатов в депутаты придется продолжить борьбу во втором туре. Среди них председатель Верховного совета Мечеслав Гриб и его предшественник Станислав Шушкевич, экс-премьер-министр Вячеслав Кебич, лидер белорусского Народного фронта Зенон Позняк и его ближайшие соратники Юрий Ходыко и Сергей Наумчик, председатель Национального банка Станислав Богданкевич, глава партии Народного согласия Геннадий Карпенко. В Мозыре хорошие шансы на победу имеет последний первый секретарь ЦК коммунистической партии Белоруссии (ныне ликвидированной) Анатолий Малофеев.

Комментируя предварительные итоги голосования, председатель центризбиркома Александр Абрамович заявил «Известиям», что активность избирателей (к урнам для голосования пришли около 65 процентов) находится на уровне прогнозируемой. По мнению Абрамовича, во втором туре увеличится количество округов, где выборы не состоятся из-за неявки избирателей, и по его результатам сформировать парламент, скорее всего, не удастся. Возникнет ситуация, которая не регулируется существующим законодательством: депутаты предыдущего созыва до формирования нового Верховного совета свои полномочия еще не утратят, а новоизбранные уже приобретут.

Как в этой ситуации будет функционировать парламент, совершенно неясно. Более полные результаты выборов и референдума станут известны уже после подписания этого номера газеты в печать.

МИНСК.

## АДЗІНЫ Ў БЕЛАРУСІ МОТАВЕЛАЗАВОД СПЫНІЎ СВАЮ ВЫТВОРЧАСЦЬ. ЧАСОВА?

"ЗВЯЗДА"

**З пачаткам першамайскіх святаў на сталічным мотавелазаводзе спыніўся канвеер па вытворчасці веласіпедаў. Толькі да шостага мая на ММВЗ хопіць запасу камплектуючых, каб збіраць матацыклы. Адміністрацыя завода плануе аднавіць нармальны працоўны графік толькі пасля 14 мая.**

Аб гэтым паведаміў карэспандэнту «Звязды» галоўны інжынер прадпрыемства Анатоль Язвінскі. Адной з асноўных прычын часовага спынення ММВЗ з'яўлюца адсутнасць грошай на закуп камплектуючых і цяжкасці з рэалізацыяй прадукцыі. Няма грошай нават на выплату працоўным заработнай платы. Зараз тэрыторыя завода запоўнена 60 тысячамі веласіпедаў, якіх гэта беларускае прадпрыемства выраблее 18 мадэляў. Цікава, што хоць на вясну і прыпадае асноўны гандлёвы сезон мотавелапрадукцыяй, аднак на ММВЗ з рэалізацыяй у гэты раз адчуваюцца цяжкасці. Анатоль Язвінскі заўважыў, што набываюць беларускія матацыклы і веласіпеды ў асноўным перакупшчыкі, і толькі невялікую частку з аптовых пакупнікоў складаюць гандлёвыя дзяржструктуры. Гэта незразумела яшчэ і таму, што апошнім адміністрацыя завода прапануе нават пэўныя льготы ў аплаце. Дарэчы, кошт мінскага матацыкла з аб'ёмам рухавіка ў 150 кв. см (мадэль такога класа ва ўсім былым Саюзе выраблае толькі ММВЗ) у пераліку складае каля 230 долараў. Кошт для падобнай тэхнікі пры сённяшніх умовах сярэдні, але ж ці па кішэні двухкалавы «Бусел» звычайнаму спажыўцу — гэта ўжо іншае пытанне. Цяжка і людзям, і прадпрыемству. Дадам толькі, што эканамічныя цяжкасці адчуваюць на сабе не толькі айчынныя мотавелапрамыслоўцы. Пайшоў ужо чацвёрты месяц, як не працуе харкаўскі калега ММВЗ.

**Юрась НАВУМЕНКА.**

*"Беларускі Дайджэст" просіць Вашае дапамогі!!!*



Ад Рэдакцыі

Дзеля вакацыйнага перапынку наступны № нашае газэты выйдзе праз месяц, гэта значыць у жніўні. Перапрашаем за няўвязку...

## І шчасьце, і годнасьць, і слава!

Ужо праз паўгода па рашэньні ЮНЭСКА людзі ў розных краінах сьвету будуць сьвяткаваць вялікі юбілей — 250-годзьдзе з дня нараджэньня славутага сына нашай Айчыны, нацыянальнага героя двух кантынэнтаў, сапраўднага "сына зямлі" Тадэвуша Касьцюшкі. 1996-ты год названы "Годам Касьцюшкі".

У ЗША ,у штаце Місісіпі яго імем названы горад. У Чыкага, Вашынгтоне, Вэст-пойт яму ўстаноўлены помнікі-мануманты. У Аўстраліі самая высокая гара носіць яго імя. У Кракаве ў Вавельскім палацы пахавана яго бунтарскае сэрца. Сілуэт Касьцюшкі красуецца на паштоўках многіх краін, як аднаго з найгуманных людзей сьвету. Толькі на нашым шматпакутнай Беларусі амаль што нічога пра яго няведама. Толькі апошнім часам, нібы спахапіўшыся, сёе-тое пачалі рабіць.

Дык што-ж гэта за чалавек, якім вось ужо звыш двух стагодзьдзяў захапляецца ўвесь сьвет. З пашанай і гонарам вымаўляюць ягонае імя. Чаму яго прыхільнасьці шукалі першы прэзыдэнт Злучаных Штатаў Джордж Вашынгтон і Іператрыца Расеі Кацярына Вялікая, Напалеон і польскі кароль Станіслаў Аўгуст? Што мы пра яго ведаем? Амаль што нічога. Між іншым, з яго імем і пад яго сьцягам, "За нашу і Вашу вольнасьць" ішлі у бой на сьмерць касінеры Польшчы, Беларусі-Літвы і Жамойці. Дзевяць гадоў жыцьця ён добраахвотна аддае барацьбе за незалежнасьць народаў Амэрыкі. Томас Джэферсон — аўтар "Дэкларацыі правоў чалавека", якога па-праву называюць "Духоўным бацькам нацыі" перад сьмерцю пісаў свайму сябру: "Касьцюшка — найсумленейшы сын волі, якога я ведаю".

Калі ў Вас, паважаныя чытачы зьявілася жаданьне даведацца пра нашага славутага суайчыньніка значна больш, калі вас цікавіць лёс "начальніка" Касьцюшкі і ягоных паплечнікаў па барацьбе, калі хочаце паглядзець на тыя мясьціны дзе ён нарадзіўся, рос, мужаў, што сталася з ягонай сялібай Марачоўшчынай пад Косавам, даведацца пра лёс яго сяброў — славутага на ўвесь сьвет кампазытара Міхася Агінскага, герояў паўстаньня 1794 г. Якуба Ясінскага, Ваўжэцкага і іншых знакамітых людзей 18-га стагодзьдзя, пішыце нам на адрас: **Auhen Mazo, 3035 Virginia Ave. S. Apt. 14, St. Louis Park, MN 55426; або тэлефануйце на № 1 (612) 935-9086.** Дакумэнтальную тэлестужку зрабіў Зміцер Мазо, сааўтар сцэнарыя Аўген Мазо, тэлежурналіст. У нас маецца таксама тэлестужкі з побыту прэзыдэнта Клінтана ў Менску, са зьезду Беларусаў сьвету ды іншыя.

### Спачуваньне

Як даведваемся з беларускае прэсы, у лепшы сьвет адыйшлі нашыя чытачы і дабрадзеі Сьв. пам. Часлаў Найдзюк і Сьв. пам. Уладзімір Сядура-Глыбінны. Рэдакцыя выказвае глыбокія спачуваньні іхнім родным і блізкім.

*Вечная Памяць!!!*

## НАЙБОЛЬШ АДПАВЯДАЕ "МАГУТНЫ БОЖА"

**Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны на сваім пасяджэньні 20 красавіка прыняла рашэньне: для Дзяржаўнага гімна "ў вышэйшай ступені падыходзіць песня М.Равенскага на верш Н.Арсенневай "Магутны Божа".**

**У матывіроўцы вылучэньня менавіта гэтага твора, падпісанай старшынёй камісіі Нілам Гілевічам, у прыватнасці, адзначацца:**

**"Пасля другой сусветнай вайны, у сярэдзіне 50-х, афіцыйным Дзяржаўным гімнам БССР была зацверджана песня Н.Сакалоўскага на словы М.Клімковіча "Мы, беларусы..." З канца 1991 года гучыць толькі музыка гэтага гімна, паколькі яго тэкст не вытрымаў праверкі часам. Многія грамадзяне, несумненна, па наіўнасці, спрабуюць ствараць гімн Рэспублікі Беларусь, спалучыўшы мелодыю Н.Сакалоўскага з новым тэкстам. Спробы гэтыя ніякага плёну даць не могуць, бо мелодыя была гімна, хоць і выразная, і запамінальная, -- аднак таксама вытрымана ў духу таго казённага, парадна-фанфарнага аптымізму, якім вызначаўся і гімн СССР "Союз нерушимый республик свободных".**

**Адышла тая эпоха -- адышоў і часовы гімн нашай Бацькаўшчыны, які не адлюстроўваў запаветных дум і спадзяванняў беларускага народа".**

**Паколькі праведзены ў 1992--1993 гадах конкурс на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь, на думку журы, такога твора не выявіў, Камісія па адукацыі і культуры лічыць, што ў Беларусі ёсць твор, які мае поўнае права стаць Дзяржаўным гімнам Рэспублікі Беларусь. Гэта песня М.Равенскага на верш Н.Арсенневай "Магутны Божа" -- выдатны, цудоўны твор, слуханне якога ў харавым выкананні абуджае ў душы кожнага шчырага беларуса вялікае хваляванне.**

**У прынятай пастанове камісія папрасіла, каб Кабінет Міністраў на працягу бліжэйшых трох месяцаў забяспечыў штодзённую трансляцыю песні "Магутны Божа" па рэспубліканскім радыё. Адначасова дэпутаты вырашылі ўнесці пытанне аб новым гімне на наступную сесію Вярхоўнага Савета.**

## ЗА ЧЫМ БЕЛАРУСЫ ЕДУЦЬ У ПОЛЬШЧУ?

**Як паведамляе польская "Газэта выборча", у 1994 годзе ў Польшчы пабывала 3,7 мільёны беларускіх грамадзян. Гэта менш, чым колькасьць пабываўшых у Польшчы немцаў (47,8 мільёны), чэхаў (14,6), але больш, чым украінцаў (2,9), славакаў (2,7), жамойцаў (1), рускіх (0,5 мільёна чалавек). Большасьць замежнікаў, што прыязджаюць у Польшчу, — тыя, хто хоча тут нешта купіць.**

Па колькасьці патрачаных у Польшчы грошай беларусы таксама займаюць трэйцяе месца — яны пакінулі тут 3 трыльёны 105 мільярдаў старых польскіх злотых (гэта каля 130 мільёнаў доляраў). На першым месцы тут, зразумела, немцы, потым чэхі, далей беларусы і г. д.

Нашы землякі вязуць у Польшчу мільёны доляраў і гэтым дапамагаюць разьвіваць польскую эканоміку. У беларускую эканоміку ўкладаць грошы нявыгадна. Беларусы, як іншыя госьці з Усходу, трацяць свае грошы ў Польшчы ў аснаўным на адзеньне (каля 39% усіх выдаткаў), на прадукты харчаваньня ідзе 14,3 % іх расходаў. Немцы пераважна расходуюць грошы на прадукты і паслугі, чэхі і славакі на адзеньне, мэблю, паліва. Сытуацыя такая, што ў Польшчы больш выгадна купляць тавары, чым у якой-небудзь іншай суседняй краіне. Беларусы, якія купляюць у Польшчы адзеньне і прадукты, вязуць іх у Беларусь на продаж. Калі раней у Польшчу везьлі тавары, дык цяпер гэта нявыгадна, і цяпер туды вязуць валюту, каб набыць там тавары на перапродаж або для ўласнага карыстаньня. Купленыя ў польскіх крамах і на рынках рэчы можна сустрэць на ўсіх беларускіх рынках.

У гэты самы час, калі беларускі рынак насычваецца таварамі з Захаду (ў гэтым выпадку з Польшчы), беларусы табуном, як авечкі, галасуюць, каб далучыцца да Расеі...

Скажыце, як разумець такую неабчэсаную дурасьць?...



У інтэрв'ю газэце "Sztandar Młodych", галоўны рэдактар парыскай "Культуры" Ежы Гедройць між іншага кажа:

**... Dla mnie polityka wschodnia, to nie są jedynie nasze stosunki z Rosją - ale i z Białorusią, Ukrainą, państwami bałtyckimi.**

**Sytuacja na Białorusi jest w tej chwili dramatyczna. Prezydent Łukaszenko przeprowadza swoje reformy, które będą wstępem do kompletnej rusyfikacji Białorusi. Rosja już jest przy naszych granicach! W tej sytuacji powinniśmy popierać wszystkie białoruskie dążenia narodowo-niepodległościowe. Stworzyć coś w rodzaju Piemontu dla niepodległej myśli białoruskiej na naszym terenie. Jest totym bardziej pilne, że Białorusi grozi wojna domowa.**

**— Czy nożna pogodzić politykę "Piemontu dla Białorusinów" z polityką dobrych stosunków z Rosją?**

**Niewątpliwie jest to rzecz bardzo trudna, ale do zrobienia. Powinniśmy stać na stanowisku czysto formalnym - Białoruś jest teoretycznie państwem niezależnym, należącym do ONZ. Nasza akcja nie byłaby wystąpieniem przeciwko działalności Rosji - to byłoby tylko popieranie niepodległościowych ruchów białoruskich.**

**W Polsce jest około 300,000 Białorusinów, obywateli polskich. Rosja też nie cofa się przed ingerencją w obronie mniejszości rosyjskiej w krajach dawnego ZSRR, które odzyskały niepodległość...**

Думка Спадара Гедройця сапраўды разумная і цікавая, але ці здольныя польскія ўлады ў Варшаве яе зразумець?

## ДЗІЦЯЧЫ ФОНД ДУХОЎНАГА І ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАГА АДРАДЖЭНЬНЯ "САКАВІК"

Дзіцячы Фонд Духоўнага й інтэлектуальнага адраджэньня «САКАВІК» — дабрачынная грамадзкая арганізацыя, асноўная мэта якой — спрыяньне працэсу адраджэньня беларускай культуры, забесьпячэньне духоўнага й фізычнага здароўя дзяцей і юнацтва, ад якіх залежыць лёс нашага народу.

Важнай задачай мы лічым вяртаньне маладога пакаленьня да традыцыйных хрысьціянскіх і нацыянальных каштоўнасьцяў і агульначалавечых вартасьцяў, ад якіх таталітарны рэжым адлучае нас на працягу доўгіх дзесяцігодзьдзяў. Імкнемся адкрыць і паспрыяць развіцьцю юных талентаў у самых розных галінах навукі, культуры й мастацтва. Нефармальны, пазбаўлены комплексаў мінулага падыход да разгляду й вырашэньня гэтых праблемаў вызначае характар нашых дзеяньняў.

Мы зьвяртаемся да ўсіх сяброў і аднадумцаў з заклікам аб'яднаць нашыя намаганьні й дапамагчы дзецям Беларусі!

Дзіцячы Фонд Духоўнага й інтэлектуальнага адраджэньня «САКАВІК» дзейнічае ў некалькіх напрамках:

«ДАПАМОГА ДЗЕЦЯМ» — аказаньне матэрыяльнай, медычнай і сацыяльнай дапамогі сіротам, хворым і іншым патрабуючым падтрымкі дзецям; арганізацыя лячэньня, аздараўленьня, адпачынку дзяцей і падлеткаў у Беларусі й за яе межамі; набыцьцё медыкамэнтаў, медычнага абсталяваньня, дзіцячага харчаваньня, лекаў, вітамінаў.

«ЮНЫЯ ТАЛЕНТЫ» — пошук і падтрымка таленавітых дзяцей, арганізацыя клюбаў і навукова-культурных ініцыятываў з мэтай разьвіцьця інтэлектуальных здольнасьцяў падлеткаў, арганізацыя конкурсаў, віктарынаў, алімпіяд, выставаў, канцэртаў, усталяваньне й разьвіцьцё культурных і агульна адукацыйных сувязяў, уключаючы абмен школьнікамі й студэнтамі Беларусі й іншых дзяржаваў; забесьпечэньне дзяцей рэлігійнай літаратурай на беларускай мове, спецыяльнай літаратурай па розных прадметах, матэрыяламі, неабходнымі для творчай працы.

З пажаданьнем посьпехаў і надзеяй на супрацоўніцтва

Марыя МІЦКЕВІЧ,
Старшыня Дзіцячага Фонду Духоўнага й інтэлектуальнага адраджэньня «САКАВІК»
220012, Беларусь, Менск, вул. Сурганава, 13а-2.
Тэл. (0172) 394480
Разліковы рахунак 700427 у АКБ «Дукат» г. Менска, МФО 153001767.

## ДАЛЕЙШЫЯ

### Ахвяры на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына:

| | |
|---|---|
| 58. Алесь Міцкевіч | $10.00 |
| 59. Надзя Касмовіч | $50.00 |
| Разам: | **$60.00** |
| Папярэднія ахвяры: | $1,571.00 |
| Разам: | **$1,631.00** |

**Чакаем далейшых ахвяраў! Хто наступны?!**

***У Беларусі жахлівымі тэмпамі распаўзаецца ўсеагульнае п'янства, а гэта, дарэчы, база амаль кожнага другога забойства. Самая вялікая бяда нашай рэчаіснасці тое, што рост злачыннасці сярод непаўналетніх апярэджвае рост дарослай злачыннасці.***

### *Нам Пішуць. Нас пытаюць...*

Добры дзень Мікола!

Перасылаю ахвяру на выдавецтва. Ты ведаеш беларусаў, — усе хочуць мець газэту, але падтрымаць яе то вельмі цяжка.

Тое, што творыцца на Беларусі, мяне моцна засмучае. Відаць на Беларусі ёсьць людзі, якія імкнуцца скасаваць нашу незалежнасьць.

Думаў паехаць гэтым летам ізноў адведаць сваё мястэчка, але відаць не паеду...

Усяго найлепшага! С. М.

*Дзякую за ахвяру на выдавецтва. Выглядае, што народ беларускі яшчэ не дасьпеў каб быць незалежным і шчасьлівым...*

Вельміпаважаны Сп. Прускі!

Перасылаю ахвяру на выдавецтва "Дайджэсту". Нарэшце мне ўдалося атрымоўваць "ЛіМ" проста з Менску... Горка даведвацца, што народ беларускі намагаецца "воссоединится" з Масквою... "Народу" вельмі хочацца назад у "турму народаў". І як выглядае, ён туды трапіць... Горка...

М. С.

*Так, гэта вельмі сумна... Дзякую за ахвяру і жадаю Вам усяго найлепшага.*